Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ

# ВАКОЛ «СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ»

(Барацьба з контррэвалюцыяй у Беларусі ў апошні перыяд грамадзянскай вайны).

Мінск, 1987

Доктар гістарычных навук Анатоль Пятровіч Грыцкевіч, абапіраючыся на неабвержныя факты і дакументы, выкрывае так званае «паўстанне» ў Слуцку ў лістападзе-снежні 1920 года. Гэта было звычайнае выступленне контррэвалюцыі супраць маладой Савецкай рэспублікі, а за плячыма яго арганізатараў—беларускіх буржуазных нацыяналістаў—стаяў генеральны штаб тагачаснай Польшчы.

# АД РЭДАКЦЫІ

*Штогод, як толькі надыходзіць лістапад — снежань, па беларускіх цэрквах і піўных (а яны звычайна месяцца разам), у іншых эміграцкіх установах у Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі — усюды, куды вецер часу закінуў нацыяналістаў, адбываюцца малебны і ўзнімаюцца тосты за «герояў-случчакоў». «Прэзідэнты» абедзьвюх «радаў» — БНР і БЦР прымаюць адмысловыя пастановы і адозвы з нагоды чарговай гадавіны так званага «слуцкага паўстання», якое адбылося ў лістападзе—снежні 1920 года. У апошні час да іх далучаюцца то губернатар штата, то кангрэсмен Злучаных Штатаў Амерыкі. А ў 1984 годзе ў ЗША выйшаў афіцыйны даведнік, у якім пазначана: 27 лістапада — Дзень слуцкага паўстання. Выдаў гэты даведнік Усеамерыканскі савет груп этнічнай спадчыны нацыянальнага камітэта рэспубліканскай партыі. Такім чынам, кіруючая партыя Злучаных Штатаў Амерыкі не толькі прызнае, але і падтрымлівае беларускіх нацыяналістаў у іх антысавецкай дзейнасці, сама толкам не ведаючы, што гэта была за падзея — «слуцкае паўстанне».*

*Вакол «слуцкага паўстання» ўзнімаецца такі шум, «героям-случчакам» так кураць фіміям, што ў чалавека недасведчанага ўзнікае пытанне: а што ж там было на самай справе?*

*На гэтае пытанне якраз і адкажа брашура «Вакол «слуцкага паўстання», напісаная доктарам гістарычных навук, вядомым у Беларусі гісторыкам Анатолем Грыцкевічам.*

*У нацыяналістаў пра «слуцкае паўстанне» пішацца і гаворыцца, як правіла, у найвышэйшай ступені, праўда патанае ў бурных хвалях фальшывых эмоцый. Калі прасачыць па нацыяналістычных выданнях, то спачатку мяцеж у Слуцку выдаваўся за народнае паўстанне, потым паўстанне перарасло ў вайну, а сёння ўжо гэта не проста вайна, а «вялікая вайна Рады БНР супраць бальшавікоў». Зрэшты, чаму дзівіцца? Людзі дробненькія, пакутуючы ад комплексу непаўнацэннасці, хварэюць гігантаманіяй. Так і беларускія нацыяналісты: у іх калі змова мяцежнікаў, дык «вялікі стратэгічны план», калі кволая арганізацыя з прэтэнзіяй на ўладу, дык «гістарычная Рада».*

*Чаму столькі шуму вакол «слуцкага паўстання»? Ды таму, што нацыяналісты зрабілі з яго свой сцяг, сімвал, таксама, як з Булак-Балаховіча — народнага героя, амаль што «выратавальніка» беларускай нацыі. А калі пазбавіць «слуцкае паўстанне» той прапагандысцкай пазалоты, а Булак-Балаховіча арэола героя, то беларускія нацыяналісты, як той казачны кароль, апынуцца голымі. Пазбаўленыя сцяга, каму яны патрэбны ў гэтай ідэалагічнай барацьбе?*

*Праца Анатоля Грыцкевіча — гэта бясстрасны расказ вучонага, можа нават крыху сухаваты. Тут няма эмоцый і непатрэбных эпітэтаў, але затое ёсць факты, што адпавядаюць аб'ектыўнай ісціне, гістарычнай праўдзе. Гэта, калі можна так сказаць, анатомія мяцяжу, тут усё навідавоку, усё распісана па днях, ледзь не па гадзінах. І бачна роля кожнага ў гісторыі барацьбы беларускага народа за новае жыццё, за ўмацаванне заваёў рэвалюцыі.*

*Нам хацелася б звярнуць увагу чытача на дзве акалічнасці. Гісторык гаворыць пра тое, пра што звыклі маў-*

*чаць тыя, хто носіцца з «слуцкім паўстаннем» як са сцягам вызваленчай барацьбы. А іменна: мяцеж быў арганізаваны і падтрымліваўся тагачаснай польскай ваеншчынай. Значыць, гаварыць пра нейкае «волевыяўленне беларусаў» — проста абсурд.*

*Гэта — першае. А другое: вучоны адзначае, што ў нашай, савецкай гістарыяграфіі пра «слуцкае паўстанне» амаль што нічога не згадваецца. Можа існуе нейкае табу на гэтую тэму, забараняюць пісаць пра падзеі на Случчыне ў канцы 1920 года, як сцвярджаюць нацыяналісты? Не, проста на фоне вялікіх і сапраўды важных падзей нашай гісторыі слуцкі мяцеж быў нязначнай дробяззю. Нават у ланцугу контррэвалюцыйных выступленняў супраць маладой Савецкай улады, гэта было самым звычайным і далёка не моцным звяном. Таму і расшыфраваў аўтар загаловак сваёй кніжкі так: «Барацьба з контррэвалюцыяй у Беларусі ў апошні перыяд грамадзянскай вайны». Гэта была апошняя ўспышка нацыяналізму ў цяжкі час станаўлення Савецкай улады — спроба ўзброеным шляхам узняць народ на супрацiўленне рэвалюцыі, спроба спыніць ход падзей гісторыі. Чым гэта скончылася, чытач даведаецца з брашуры.*

# ВАКОЛ «СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ»

У беларускай савецкай гістарычнай літаратуры пытанню аб разгроме слуцкага мяцяжу ўдзелена параўнаўча мала ўвагі, таксама, як і рэйду Булак-Балаховіча на Палессе ў лістападзе 1920 года. Спецыяльных прац на гэтую тэму да апошняга часу не было. У шэрагу іншых, больш агульнага характару, прыводзяцца толькі звесткі аб гэтых падзеях у большым ці меншым аб'ёме. Да таго ж ацэнкі слуцкага мяцяжу розныя (у значнай меры ў залежнасці ад прыведзеных звестак). Мэтай гэтай нашай працы з'яўляецца больш поўнае асвятленне апошняга этапа барацьбы з контррэвалюцыяй на тэрыторыі БССР у перыяд грамадзянскай вайны, у прыватнасці разгром «арміі» Булак-Балаховіча і так званага «слуцкага паўстання».

Гістарыяграфія гэтага пытання выклікае цікавасць і ў сувязі з тым, што калі савецкія вучоныя шукаюць класавыя вытокі дзеянняў тых ці іншых груповак, даюць ім адпаведныя ацэнкі, то буржуазныя, у першую чаргу беларускія нацыяналісты, выкарыстоўваючы сам факт мяцяжу супраць Савецкай улады ў рамках ідэалагічнай барацьбы паміж капіталізмам і сацыялізмам, намагаюцца паказаць яго як «народнае» паўстанне, накіраванае на

стварэнне «беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці» («Саветы без бальшавікоў»), як паўстанне «за незалежнасць Беларусі». Пры гэтым яны цалкам затушоўваюць яго класавы характар і амаль не закранаюць пытанне аб дапамозе мяцежнікам з боку польскіх улад.

Гістарыяграфічную характарыстыку пытання аб слуцкім мяцяжы ў беларускай нацыяналістычнай літаратуры даў амерыканскі буржуазны гісторык Нікалас Вакар [1]. Ён адзначыў некалькі артыкулаў у замежнай нацыяналістычнай прэсе, у якіх гэты мяцеж разглядаецца як «барацьба беларускага народа за сваё нацыянальнае вызваленне». Аднак Н. Вакар звярнуў увагу на тое, што да пачатку 1930-х гадоў нават у беларускай нацыяналістычнай прэсе панаваў погляд, што «слуцкае паўстанне» было арганізавана супольна Вярхоўнай Радай (у выгнанні) і Польскім Генеральным Штабам»[2].

І пазней лідэр партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», што дзейнічала ў Заходняй Беларусі, ксёндз Адам Станкевіч у сваіх кнігах «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (Вільня, 1935) і «Беларускі хрысціянскі Рух» (Вільня, 1939) прытрымліваўся гэтага ж пункту гледжання.

У пасляваенным эміграцкім беларускім буржуазна-нацыяналістычным друку падзеі ў Слуцку ў канцы 1920 года разглядаюцца ўжо як «вялікія і гістарычныя», як «гераічная справа беларускага народа». Калі-нікалі на яго старонках з'яўляліся нават «паведамленні відавочнікаў» мяцяжу, усё часцей адзначалася дата яго пачатку. У Заходняй Германіі, а потым і ў іншых краінах (у Англіі, напрыклад) праводзіліся злёты яго ўдзельнікаў, вакол якіх буржуазна-нацыяналістычныя газеты ўзнімалі прапагандысцкую кампанію, малюючы іх «нацыянальнымі героямі ў барацьбе з камунізмам». З цягам часу легенда пра слуцкі мяцеж абрастала ўсё больш фантастычнымі дэталямі. Так, у 1958 годзе ў дакладзе «прэзідэнта» Беларускай цэнтральнай рады Р. Астроўскага ў Нью-Йорку пад-

крэслівалася, што мяцеж быў старанна і загадзя падрыхтаваны пад кіраўніцтвам беларускіх нацыяналістычных арганізацый. «Слуцкае паўстанне,— гаворыцца ў гэтым дакладзе,— фактычна, ёсць толькі часткаю вялікага стратэгічнага плана, апрацаванага гістарычнаю Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі і канспірацыйным паўстанцкім штабам, у склад якога ўваходзілі ад вайскоўцаў капітан Анцыповіч, штабс-капітан Сокал-Кутылоўскі і падпалкоўнік генеральнага штаба былое расійскае арміі, прозвішча якога яшчэ сёння я назваць не магу, бо магчыма, што ён яшчэ жыве і знаходзіцца па-за жалезным занавесам...

Гэты канспірацыйны паўстанцкі штаб быў арганізаваны 6 студзеня і праводзіў падгатаваўчую працу на працягу шасці месяцаў...»[3].

Такім чынам, прызнаецца факт, што антысавецкі мяцеж рыхтаваўся загадзя пад кіраўніцтвам правадыроў беларускіх нацыяналістычных арганізацый з пачатку 1920 года, калі Слуцкі павет быў акупіраваны польскімі войскамі (з жніўня 1919 года). Выходзіць, мяцеж падрыхтоўваўся супраць польскіх улад? Аднак пры супастаўленні з гістарычнымі фактамі такое сцверджанне не вытрымлівае крытыкі. Перш за ўсё канец шасцімесячнага падрыхтоўчага перыяду прыпадае на ліпень 1920 года, калі часці Чырвонай Арміі пачалі летняе наступленне ў Беларусі і вызвалілі Слуцк. Аднак ні ў апублікаваных матэрыялах, ні ў архіўных дакументах няма ніякіх звестак або нават ускосных прыкмет падрыхтоўкі паўстання супраць польскіх улад або супраць Савецкай улады ў гэты момант ці пазней. Што датычыцца членаў нібыта існаваўшага паўстанцкага цэнтра, то з названых асоб штабс-капітан А. Сокал-Кутылоўскі пасля службы ў рускай белагвардзейскай арміі Дзянікіна (дзе служыў, дарэчы, і сам беларускі нацыяналіст Р. Астроўскі) у пачатку 1920 года ў Слуцк яшчэ не прыехаў[4] і, такім чынам, удзельнічаць у «падрыхтоўцы паўстання» не мог. Далей у заяве Р. Аст-

роўскага гаворыцца, што «вялікі стратэгічны план», часткай якога была «падрыхтоўка паўстання» ў Слуцку, быў распрацаваны «гістарычнаю Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі» (БНР) і што падрыхтоўка да паўстання пачалася ўжо на пачатку студзеня 1920 года. Аднак добра вядома, што ў гэты час ужо існавала ажно дзве рады БНР. Яшчэ 13 снежня 1919 года ў Мінску, які быў акупіраваны польскімі войскамі, адбыўся раскол у лагеры беларускіх нацыяналістаў, рада Беларускай народнай рэспублікі падзялілася на дзве часткі: прыхільнікаў федэрацыі Беларусі з Польшчай на чале з А. Луцкевічам — 37 членаў (Найвышэйшая рада БНР) і тых, хто выступаў супраць гэтай федэрацыі, на чале з В. Ластоўскім — 50 членаў (Народная рада БНР). Два ўрады, створаныя гэтымі радамі, аспрэчвалі адзін у аднаго ўладу, дарэчы, якой ва ўмовах польскай акупацыі Беларусі не мелі. Польскія акупацыйныя ўлады падтрымлівалі марыянетачны ўрад А. Луцкевіча, але ніякай рэальнай улады яму не давалі, хоць і дазвалялі весці культурна-асветніцкую працу і ствараць вайсковыя сілы для барацьбы супраць Чырвонай Арміі (але гэтыя сілы рэальна так і не ўдалося стварыць). Члены іншага беларускага ўрада на чале з В. Ластоўскім былі ў снежні 1919 года арыштаваны акупацыйнымі ўладамі і знаходзіліся ў зняволенні да лютага 1920 года, калі ўрэшце былі вызвалены і перабраліся ў Каўнас пад апеку літоўскага буржуазнага ўрада.

У гэтых абставінах рада БНР польскай арыентацыі і ўрад А. Луцкевіча не маглі распрацоўваць аніякіх планаў супраць сваіх польскіх саюзнікаў. Іншая рада БНР і яе ўрад знаходзіліся пад арыштам у студзені 1920 года і рыхтаваць «паўстанне» таксама не маглі. Выдумкаю з'яўляецца і старанная падрыхтоўка «паўстання» супраць Савецкай улады ў студзені 1920 года, бо ў той час наступленне Чырвонай Арміі ў Беларусі і на Украіне яшчэ не чакалася і не прадбачылася. Больш таго, Савецкі ўрад 28 студзеня 1920 года афіцыйна звярнуўся да ўрада буржу-

азна-памешчыцкай Польшчы з прапановай аб заключэнні мірнага дагавора і ўстанаўленні савецка-польскай граніцы на лініі Беларускага фронта — паблізу Дрысы—Дзісны—Полацка—Барысава — па рацэ Бярэзіне — станцыі Бела-каровічы [5]. Такім чынам, у гэты момант тэрыторыя Слуцкага павета па ўмовах прапанаванага мірнага дагавора заставалася б у складзе Польшчы, тым самым рыхтаваць «паўстанне» супраць Савецкай улады мясцовым беларускім нацыяналістам было зусім не патрэбна. Выходзіць, усе згаданыя вышэй выказванні Р. Астроўскага з'яўляюцца выдумкаю з мэтай надаць большую вагу слуцкаму мяцяжу і выкарыстаць яго ў сваёй антысавецкай прапагандзе.

Гадавіну «слуцкага паўстання» штогод адзначаюць розныя беларускія эмігранцкія арганізацыі, чытаюцца ўрачыстыя рэфераты, прысвячаюцца артыкулы ў газетах, надаючы звычайнаму мяцяжу характар «Слуцкага фронту змагання БНР за ажыццяўленне вольнай і незалежнай Беларусі». А папярэднім такім «фронтам змагання», аказваецца, была «яшчэ ў 1919 годзе армія генерала Балаховіча», якая «прызнала над сабой уладу Рады БНР ды змагалася доўгі час у Паўднёвай Беларусі і на Палессі за ідэю БНР». Праз некалькі год слуцкі мяцеж ужо называўся «Беларускім фронтам Случчыны». Але, па-першае, фронт у ваенна-навуковым значэнні — гэта найвышэйшае аператыўнае аб'яднанне, у склад якога ўваходзяць апе-ратыўныя аб'яднанні, злучэнні, г. зн. арміі, карпусы, дывізіі, а ў слуцкіх мяцежнікаў была толькі адна брыгада, якая складалася з двух палкоў. Па-другое, фронт як аператыўнае аб'яднанне працягваецца на некалькі соцень кіламетраў, чаго ніяк не магло быць на Случчыне. І ўрэшце, «армія» Булак-Балаховіча ваявала на Беларусі, як будзе паказана ніжэй, толькі ў лістападзе 1920 года. Да гэтага, улетку і восенню, на Палессі дзейнічалі яго атрады, у армію не арганізаваныя. Ды і «армія» яго тут была не беларуская, а руская. А ў 1919 годзе ён яшчэ быў бела-

гвардзейскім генералам арміі Юдзеніча і ваяваў каля Пскова.

Амерыканскі гісторык Н. Вакар у сваёй кнізе напісаў пра слуцкі мяцеж няшмат. Ён адзначыў, што «гісторыя слуцкага паўстання заблытаная, а ягоныя крыніцы няясныя»[6]. Ён сцвярджае, што «супраць Саветаў успыхнула паўстанне ў тыле Чырвонай Арміі, у раёне Слуцка». Далей Н. Вакар гаворыць, што «Слуцкая Рада ў савецкім падполлі... не прызнавала аніякай улады, акрамя сваёй уласнай»[7]. Няма чаго даказваць, што часці Чырвонай Арміі з 11 кастрычніка 1920 года знаходзіліся на ўсход ад Слуцка, які быў, праўда, у тыле, але не чырвоных, а польскіх войск. А да таго часу ніякіх паўстанняў у раёне не зазначаюць нават беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія самі адносяць пачатак слуцкіх падзей да лістапада 1920 года. Разам з тым Н. Вакар лічыць, што мяцеж, відавочна, быў антырускім і антыпольскім адначасова, але ёсць доказы, што гэты рух натхняўся Луцкевічам з Варшавы і атрымоўваў дапамогу польскімі грашыма і людзьмі»[8].

Упершыню сярод беларускіх савецкіх гісторыкаў гэтае пытанне закрануў А. Зюлькоў[9]. Ён літаральна ў некалькіх фразах ахарактарызаваў гэты мяцеж як кулацкі, арганізаваны пад сцягам барацьбы супраць Масквы і Савецкай улады беларускімі буржуазнымі нацыянал-дэмакратамі, якія былі падначалены афіцыйна радзе БНР, а неафіцыйна і фактычна Польшчы (ад яе мяцежнікі атрымоўвалі дапамогу зброяй)[10].

Крыніцамі для нашай працы паслужылі розныя, у значнай меры разрозненыя дакументальныя матэрыялы, якія перахоўваюцца ў бібліятэках і архівах БССР, дакументы ваенна-гістарычнага і дыпламатычнага характару, газетныя матэрыялы, успаміны асоб, якія прычыніліся да слуцкага мяцяжу, шэраг дакументаў буржуазна-нацыяналістычных арганізацый. Пры выкарыстанні такіх матэрыялаў і дакументаў бралася пад увагу і тое, што некаторыя

з іх маюць суб'ектыўны погляд на ход падзей (гэта адносіцца ў першую чаргу да мемуараў), яны былі складзены з нейкай пэўнай мэтай, таму ў такіх дакументах і матэрыялах даецца свядомае скажэнне ісціны або фактычныя памылкі.

* * *

Беларусь была арэнай баёў у перыяд савецка-польскай вайны ў 1920 годзе. У ліпені войскі Чырвонай Арміі перайшлі тут у наступленне, вызвалілі тэрыторыю Беларусі і сталі імкліва набліжацца да Варшавы. Аднак войскі Заходняга фронта (а на Украіне — Паўднёва-Заходняга) былі вельмі аслаблены ў папярэдніх наступальных аперацыях і стомлены, адарваны ад сваіх тылавых баз забеспячэння, страцілі кіраванне; савецкае камандаванне дапусціла памылкі, пераацаніўшы свае поспехі і недаацаніўшы сілы праціўніка [11]. У жніўні 1920 года ў раёне Варшавы польскія войскі нанеслі савецкім арміям контрудар, і арміі Заходняга фронта пацярпелі паражэнне [12]. Яны вымушаны былі адыходзіць на ўсход.

У канцы лета і восенню таго ж года становішча на Заходнім фронце склалася неспрыяльна для Чырвонай Арміі. Савецкія войскі ў верасні-кастрычніку, хаця і павольней, чым у жніўні, працягвалі адступаць. У. І. Ленін зазначаў 15 кастрычніка 1920 года: «На працягу больш чым месяца і ўвесь апошні час нашы войскі адступалі і цярпелі паражэнні, бо яны былі непамерна стомлены і знясілены тым нечуваным маршам, які яны зрабілі на адлегласці ад Полацка да Варшавы [13].

Савецкае галоўнае камандаванне, паставіўшы асноўнай задачай ліквідацыю Врангеля, прапанавала ў дырэктыве ад 24 верасня 1920 года войскам Заходняга фронта па меры магчымасці стрымліваць напор польскіх легіянераў, «маючы на ўвазе ўсямернае захаванне жывой сілы...»[14]. Камандуючы Заходнім фронтам М. Тухачэўскі за-

гадаў адступаючым арміям фронта да 2 кастрычніка заняць лінію старых руска-германскіх акопаў і затрымацца на ёй. Аднак гэтая задача выканана не была. Польскія войскі ўзмацнілі тэмп наступлення з мэтай заняць больш тэрыторыі да моманту заключэння перамір'я і папярэдніх умоў міру, аб чым у сталіцы Латвіі Рызе вяліся перагаворы паміж савецкай і польскай дэлегацыямі. Кіраўнік польскай дзяржавы і галоўнакамандуючы маршал Ю. Пілсудскі вырашыў заняць Вільню, стратэгічныя пазіцыі: пераправы на Нёмане паблізу ад Мінска, тэрыторыю на ўсход ад чыгуначнай лініі Вільня—Ліда—Баранавічы—Лунінец, а таксама ўтварыць шырокі калідор паміж савецкімі войскамі і саюзнай тады Савецкай Расіі ў савецка-польскай вайне буржуазнай Літвою, пачынаючы ад Маладзечна і на поўнач.

У пачатку кастрычніка 1920 года 16-я армія Заходняга фронта адыходзіла да Мінска і Слуцка. 17-я дывізія, якая ўваходзіла ў склад гэтай арміі, 5 кастрычніка адышла на лінію Грэск—Бранава—Селішча (8 вёрст на захад ад Слуцка) — Пагост, стварыўшы дугу на захад ад горада. З 5 да 7 кастрычніка на гэтым участку савецка-польскага фронта настала зацішша. 7 кастрычніка дырэктывай камандуючага 16-й арміяй паведамлялася, што 8-га адбудзецца падпісанне перамір'я і папярэдніх умоў міру, прычым перамір'е павінна было ўступіць у сілу толькі 18 кастрычніка [15]. Было зразумела, што польскае камандаванне разлічвала на працяг наступлення, каб адцясніць войскі Чырвонай Арміі далей на ўсход і падрыхтаваць плацдармы для магчымых авантур з мэтай націску на савецкую дэлегацыю ў Рызе пры распрацоўцы канчатковых умоў міру.

12 кастрычніка 1920 года ў Рызе быў заключаны дагавор аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру паміж РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчай — з другога. Паводле дагавора была ўстаноўлена ўсходняя граніца Польшчы з Украінай і Беларуссю. Заходняя Украіна і

Заходняя Беларусь афіцыйна ўключаліся ў склад Польскай дзяржавы. Ваенныя дзеянні спыняліся ў 24 гадзіны 18 кастрычніка 1920 года. Устанаўлівалася нейтральная зона: савецкія войскі адыходзілі на адлегласць «не бліжэй 15 кіламетраў ад зафіксаванага да моманту спынення ваенных дзеянняў польскага фронту»[16]. Польскія — на поўнач ад Нясвіжа спыняліся на лініі граніцы, а на поўдзень ад яго на лініі свайго найбольшага прасоўвання. У дагаворы вызначалася, што нейтральная ў ваенных адносінах зона ў 15 кіламетраў павінна была знаходзіцца ў кіраванні той краіны, якой гэта тэрыторыя належыць паводле дагавора. Пасля ратыфікацыі прэлімінарнага мірнага дагавора войскі абодвух бакоў павінны былі паступова адводзіцца на свой бок, за межы сваёй тэрыторыі і размяшчацца не бліжэй 15 кіламетраў па абодвух баках граніцы. З гэтага часу ўстанаўлівалася нейтральная зона шырынёй 30 кіламетраў[17].

Савецкі ўрад пайшоў на заключэнне міру з Польшчай для таго, каб усе сілы кінуць на разгром Врангеля. На гэта ўплывала і ўнутранае становішча, цяжкасці ў харчовым забеспячэнні, неўраджай 1920 года, пра што гаварыў У. І. Ленін у заключным слове на нарадзе старшынь паветовых, валасных і сельскіх выканаўчых камітэтаў Маскоўскай губерні 15 кастрычніка 1920 года. У. І. Ленін адзначаў: «Становішча Савецкай рэспублікі надзвычай цяжкае, што нас і прымусіла спяшацца з мірам перад зімовай кампаніяй. Нас прымусіла спяшацца з мірам жаданне пазбегнуць зімовай кампаніі, разуменне таго, што лепш мець горшую граніцу, г. зн. атрымаць меншую тэрыторыю Беларусі і мець магчымасць меншую колькасць беларускіх сялян вырваць з-пад прыгнёту буржуазіі, чым падвергнуць новым цяжкасцям, новай зімовай кампаніі сялян Русі. Вось прычыны»[18]. Разам з тым у прамове на той жа нарадзе У. І. Ленін зазначыў, што мір з Польшчай падпісаны на ўмовах, менш карысных для Польшчы, чым умовы, якія прапанаваў Савецкі ўрад у пачатку 1920 го-

да, калі «... палякі стаялі на фронце ад 50 да 150 вёрст на ўсход ад лініі, якую яны цяпер палічылі як лінію папярэдняга міру...» (28 студзеня і 2 лютага 1920 года Савецкі ўрад прапанаваў Польшчы мір з граніцай па рацэ Бярэзіне).

Падпісваючы дагавор, буржуазна-памешчыцкі ўрад Польшчы не адмаўляўся ад сваіх анексіяністцкіх планаў у адносінах да ўсходняй часткі Беларусі. Міністр замежных спраў Польшчы князь Е. Сапега падкрэсліваў у інструкцыі польскім дыпламатычным прадстаўнікам 10 кастрычніка: «Нам таксама не абыякавы лёс зямель, якія гістарычна належалі Польшчы і якія адрываюцца ад яе паводле будучага Рыжскага дагавору»[19]. А праз два дні ў лісце да старшыні польскай дэлегацыі на мірнай канферэнцыі ў Рызе Яна Домбскага міністр пісаў: «Ваша рашэнне ўсходняга пытання з'яўляецца рашэннем часовым. Канчаткова яго можна было б вырашыць толькі пры ўдзеле Антанты».

Ю. Пілсудскі 8 кастрычніка 1920 года загадаў сваім войскам прасоўвацца наперад і пасля падпісання перамір'я. 4-й арміі войска польскага было загадана наступаць на Койданава, а таксама ўздоўж Слуцкай шашы і на палескім участку да ракі Случ. Польскія войскі ў сваім наступленні 15 кастрычніка з паўднёвага напрамку занялі Мінск, але, паводле ўмоў перамір'я, 17 кастрычніка пакінулі горад, у які зараз жа ўвайшлі часці Чырвонай Арміі. На поўдзень ад Нясвіжа з 11 кастрычніка ішлі баі. На поўдні Беларусі 13 кастрычніка польскія войскі захапілі Тураў, а 16-га — Жыткавічы і Даманавічы, да 18-га кастрычніка былі ў Капцэвічах (на рацэ Пціч). Слуцк абаранялі 49-я і 51-я брыгады, якія ўваходзілі ў склад 17-й дывізіі Чырвонай Арміі. На іх наступалі часці 11-й польскай дывізіі. Пасля вулічных баёў да вечара 11 кастрычніка польскія войскі занялі Слуцк. Аднак савецкія войскі на наступны дзень уварваліся на вуліцы горада і зноў вялі баі ў ім. У выніку контратакі польскіх войск часці

17-й дывізіі адступілі на ўсход. Да 18 кастрычніка пасля ўпартых баёў яны былі адцеснены далей, на лінію ў 25 вярстах на ўсход ад Слуцка. Да поўнага спынення ваенных дзеянняў часці Чырвонай Арміі вялі баі ў раёне Слуцка. Нават 19 кастрычніка вечарам (пасля афіцыйнага спынення баявых дзеянняў) польскія войскі пацяснілі на ўсход адну з часцей Чырвонай Арміі.

Да моманту спынення ваенных дзеянняў савецкія войскі ў Беларусі размяшчаліся ў 15 кіламетрах ад новай граніцы з поўначы Беларусі да раёна на поўдзень ад Негарэлага. На поўнач ад Узды лінія фронта адыходзіла на паўднёвы ўсход на Вяркалы (на поўдзень ад Шацка), далей на ўсход ад Амговіч (Слуцкі раён) і Дарасіна—Захальное (Любанскі раён), на Палессі — паводле лініі Камаровічы—Бобрык—Галубіца на Прыпяці і далей праз Махновічы на Ельск [20]. Такім чынам, польскія войскі на поўдні Беларусі кантралявалі раёны на ўсход ад толькі што вызначанай дзяржаўнай граніцы паміж Польшчай і БССР.

Пасля заключэння перамір'я Ю. Пілсудскі і генеральны штаб польскай арміі распрацавалі планы выкарыстання антысавецкіх сіл для нападу на тэрыторыю Беларусі, каб звергнуць тут Савецкую ўладу, устанавіць марыянетачны рэжым, а частку Усходняй Беларусі далучыць да Польшчы. Гэтыя планы знайшлі адлюстраванне ў інструкцыі (ад 10 кастрычніка 1920 года) тагачаснага міністра замежных спраў Польшчы князя Сапегі польскім дыпламатычным прадстаўнікам за мяжой: «... нам трэба кіравацца тым, што і надалей падтрымліваць элементы, варожыя да Савецкай Расіі, як рускія, так і ўкраінскія, беларускія, каўказскія, намагаючыся ўстанавіць кожныя кантакты...»[21].

Асноўным звяном у ланцугу гэтых планаў была авантура Булак-Балаховіча. Яна была звязана са слуцкім мяцяжом і папярэднічала яму.

Хто ж такі быў генерал Булак-Балаховіч, якога нацыя-

налісты ўзводзяць у ранг нацыянальнага героя? Станіслаў Булак-Балаховіч паходзіў з дробнай беларускай шляхты, нарадзіўся ў невялічкім маёнтку Мейшты каля Відзаў, па адукацыі быў аграномам. З 20 жніўня 1914 года ён добраахвотнік у Курляндскім уланскім палку рускай арміі на Паўночна-Заходнім фронце. У ліпені 1915 года С. Булак-Балаховіч атрымаў першы афіцэрскі чын прапаршчыка, а ў 1917 годзе ён ужо штаб-ротмістр [22]. З лістапада 1915 года — камандзір партызанскага эскадрона, а пасля — усяго партызанскага атрада 2-й кавалерыйскай дывізіі на Паўночным фронце пад Рыгай. Гэты атрад рабіў дыверсійна-разведвальныя рэйды на тылы нямецкіх войск. Тут С. Булак-Балаховіч набыў вопыт хуткіх манеўраных дзеянняў кавалерыі [23]. Са сваім атрадам коннікаў (каля 500 чалавек) заставаўся на фронце да заключэння Брэсцкага міру 1918 года з Германіяй і яе саюзнікамі. Пасля дэмабілізацыі старой рускай арміі Булак-Балаховіч вясной 1918 года ўступіў у Чырвоную Армію і пачаў фарміраваць у горадзе Лузе 1-шы Лужскі партызанскі конны полк 4-й Петраградскай дывізіі, а з мая 1918 года — 3-ці Петраградскі кавалерыйскі полк той жа самай дывізіі Чырвонай Арміі. Хутка ён давёў колькасны склад палка да 1 121 чалавека. З дазволу старшыні Рэўваенсавета рэспублікі Л. Троцкага гэты полк не быў падкантрольны ваеннаму камісару. У выніку гэтага Булак-Балаховіч набіраў у полк былых афіцэраў і унтэр-афіцэраў з палякаў, беларусаў, украінцаў, латышоў і эстонцаў, а таксама і з рускіх, настроеных непрыхільна да Савецкай улады. У свой полк ён свядома не браў камуністаў. Сам ён схіляўся да праграмы правых эсэраў. Улетку 1918 года ён падавіў у раёне Лугі—Тарошына—Гдова некалькі антысавецкіх сялянскіх выступленняў, пры гэтым падаўленне мяцяжоў з кантрыбуцыямі, канфіскацыямі, насіллямі праводзілася ад імя Савецкай улады, каб яе скампраметаваць, і накіроўвалася, галоўным чынам, супраць беднейшых сялян, з тою ж мэтай [24].

На пачатку фарміравання белагвардзейскай Паўночна-Заходняй арміі генерала Юдзеніча ў Эстоніі Булак-Балаховіч праз двух сваіх камандзіраў устанавіў у кастрычніку 1918 года кантакты з камандаваннем белай арміі ў Пскове і паведаміў, што ён са сваім палком у адпаведны момант пяройдзе на бок белых. 17 кастрычніка 1918 года быў выпрацаваны дагавор паміж «ротмістрам С. Булак-Балаховічам» і начальнікам разведвальнага бюро штаба Пскоўскага добраахвотніцкага корпуса белых. Паводле гэтага дагавора, 3-ці Петраградскі кавалерыйскі полк на чале з камандаваннем павінен быў перайсці на бок белых у пачатку лістапада 1918 года. 26 кастрычніка да белых перайшоў 1-шы эскадрон гэтага палка на чале з былым пад'есаулам Б. Пярмыкіным. Тады С. Булак-Балаховіч прыбыў на станцыю Тарошына да ваеннага камісара Гдоўска-Тарошынскага раёна Я. Фабрыцыуса, пераканаў яго ў сваёй адданасці Савецкай уладзе і даў клятву адпомсціць Пярмыкіну. Пасля гэтага ён пачаў збіраць падраздзяленні свайго палка ў раёне станцыі Стругі Белыя і выпусціў адозву да сялянства з заклікам уздымацца на барацьбу з бальшавікамі, якія выступаюць, маўляў, супраць сялянства. Адозву ён падпісаў: «Атаман сялянскіх партызанскіх атрадаў бацька Балаховіч». Сялянства ў сваёй масе засталося абыякавым да адозваў «бацькі», і 7 лістапада 1918 года ён са сваім палком перайшоў на бок белых. Тут, у раёне Пячор, ён у чыне ротмістра працягваў камандаваць сваім конным атрадам. 26 лістапада 1918 года нямецкія і белагвардзейскія часці пакінулі Пскоў. Са студзеня 1919 года так званы конны партызанскі атрад падпалкоўніка С. Булак-Балаховіча дзейнічаў у складзе паўднёвай групы Паўночна-Заходняй арміі на пскоўскім напрамку на ўзбярэжжы Чудскога возера, але, як і ўсе белыя часці, падпарадкаваўся камандаванню эстонскай арміі. У лютым 1919 года камандуючы паўднёвай групай генерал-маёр А. Радзянка перайменаваў гэты атрад у конны полк імя Булак-Балаховіча. 15 мая

1919 года полк заняў горад Гдоў, за што С. Булак-Балаховіч атрымаў чын палкоўніка. 25 мая часці Чырвонай Арміі пакінулі Пскоў, і горад занялі часці эстонскай арміі, а 29 мая сюды прыбылі салдаты Булак-Балаховіча. Тут Булак-Балаховіч па дамоўленасці з камандаваннем эстонскай буржуазнай арміі прыняў камандаванне ваеннымі сіламі Пскоўскага раёна. За баі каля Пскова Булак-Балаховіч у ліпені 1919 года атрымаў чын генерал-маёра, а яго часці былі ператвораны ў асобную зводную дывізію. У сваіх адозвах у гэты перыяд ён дэмагагічна пісаў: «Я ваюю не за царскую і не за панскую-памешчыцкую, а за новую, вольную, дэмакратычную, народную сялянскую працоўную Расію». Ён выстаўляў эсэраўскія лозунгі: «за зямлю і хлеб для ўсяго народа, за права працоўных, за новы ўсенародны Устаноўчы сход»[25]. У жніўні 1919 года галоўнакамандуючы Паўночна-Заходняй арміяй генерал М. Юдзеніч назначыў Булак-Балаховіча камандуючым 2-м корпусам гэтай арміі. У камандаванні белай арміі абвастрыліся супярэчнасці паміж манархічнай групоўкай Юдзеніча і эсэраўскай, у якую ўваходзіў С. Булак-Балаховіч. Юдзеніч 22 жніўня аддаў загад палкоўніку Б. Пярмыкіну на чале чатырох палкоў, 2 батарэй і іншых часцей рухацца на Пскоў і арыштаваць Булак-Балаховіча і ягоны штаб і аддаць яго пад суд «за беззаконныя дзеянні». 23 жніўня Пярмыкін прыбыў у Пскоў і арыштаваў членаў штаба. Пры арышце начальнік штаба палкоўнік Стаякін быў забіты, гарадскі галава Пскова М. Іваноў задушаны. Толькі Балаховіч з дваццаццю коннікамі асабістай сотні ўцёк у Гдоў, дзе падпарадкаваўся Юдзенічу, фармальна быў пасаджаны пад «хатні арышт», але адразу ж выехаў на фронт да сваёй коннай групы ў 1 200 чалавек. 26 жніўня 1919 года часці Чырвонай Арміі ўступілі ў Пскоў. Булак-Балаховіч працягваў камандаваць сваёй групай.

Пасля паражэння белай Паўночна-Заходняй арміі ў лістападзе 1919 года сярод яе камандавання ўзмацніліся

рознагалоссі. 22 студзеня 1920 года Юдзеніч выдаў загад аб поўнай ліквідацыі гэтай белай арміі, заявіўшы, што ён падпарадкоўваецца адміралу Калчаку, як «правіцелю Расіі», і прапанаваў перакінуць войскі да Дзянікіна, які ў гэты час цярпеў паражэнні ад Чырвонай Арміі. Булак-Балаховіч намагаўся ўзначаліць белагвардзейскія сілы ў Прыбалтыцы і праз рускую газету «Верный путь» у Эстоніі звярнуўся да галоўнакамандуючага эстонскай арміяй генерала Лайданера, каб яму дазволілі сабраць добраахвотнікаў і забяспечыць іх усім неабходным.

С. Булак-Балаховіч, каб атрымаць для ўзноўленай белай арміі ў Эстоніі грошы, пры неафіцыйнай падтрымцы эстонскіх улад вырашыў арыштаваць Юдзеніча і забраць грошы з касы арміі, якія былі ў Юдзеніча. У ноч на 28 студзеня 1920 года Булак-Балаховіч, які з групай афіцэраў прыехаў у Талін, арыштаваў у гасцініцы «Камерс» Юдзеніча, генерала Крузенштэрна і ад'ютанта, забраў у Юдзеніча больш 220 тысяч фунтаў стэрлінгаў і перадаў іх ваеннаму пракурору Паўночна-Заходняй арміі Вішнеўскаму. Арыштаваных Булак-Балаховіч адвёз на станцыю, пасадзіў у таварны вагон і павёз на фронт. Толькі пад націскам англійскага ўрада са станцыі Тапа цягнік вярнуўся ў Талін, Юдзеніча перавезлі ў памяшканне англійскай ваеннай місіі, а потым, аддаўшы ўсе грошы, ён выехаў за мяжу. А. Булак-Балаховіч падаўся на фронт.

Адначасова белагвардзейскі генерал, памятаючы сваё беларускае паходжанне, уступіў у перагаворы з урадам так званай Беларускай народнай рэспублікі аб тым, каб залічыць яго конны атрад у склад арміі БНР. Як сведчыць польская ваенная энцыклапедыя, Булак-Балаховіч перайменаваў свой атрад у «Беларускі». Рада міністраў БНР 22 студзеня 1920 года прыняла гэты атрад «у склад войска БНР»[26]. Аднак фактычна такога войска не існавала, за выключэннем асобных пяхотных і конных падраздзяленняў у складзе літоўскай арміі (на паўднёвы захад ад Даўгаўпілса).

Шэф вайскова-дыпламатычнай місіі Рады БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўнік К. Езавітаў 8 лютага 1920 года звярнуўся да галоўнакамандуючага польскай арміяй Ю. Пілсудскага, каб той даў дазвол перавесці асобны атрад генерал-маёра Булак-Балаховіча з Эстоніі ў Беларусь і «прэдаставіць Асобнаму Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі кавалак фронту на левым фланге Польскай Арміі і ўзлажыць на Польскае інтэнданцтва павіннасць адпускаць для Асобнага Атраду ўсё яму патрэбнае».

Адначасова С. Булак-Балаховіч, па веравызнанню каталік, успомніў, што ягоная матка — полька, і хоць ён не выракаўся свайго беларускага паходжання, аднак у лютым 1920 года праз польскага ваеннага аташэ ў Рызе капітана Мышкоўскага прапанаваў польскаму ўраду, што пяройдзе са сваім атрадам у распараджэнне польскага камандавання. Самае цікавае, што адначасова (на ўсялякі выпадак) ён прапанаваў свае паслугі і буржуазнай Літве, якая была ў стане канфлікту з Польшчай. 23 лютага 1920 года пагадненне паміж Булак-Балаховічам і польскім прадстаўніком у Рызе было падпісана, 3 сакавіка Балаховіч быў прыняты польскім генералам Рыдз-Сміглым, і атрад генерал-маёра С. Булак-Балаховіча ў 1 700 чалавек, пераправіўшыся 14 сакавіка праз Заходнюю Дзвіну, быў адпраўлены на польска-савецкі фронт пад назвай Беларускага атрада. Салдаты і афіцэры атрада насілі спецыяльныя адзнакі.

Перабраўшыся на тэрыторыю Беларусі, якую кантралявала Польшча, С. Булак-Балаховіч, рускі генерал-маёр, не парваў сувязей з рускай белагвардзейскай эміграцыяй. Ён выступаў за ўстанаўленне Расійскай дэмакратычнай рэспублікі. Беларускія нацыяналісты не падтрымалі гэтых ваенных планаў Булак-Балаховіча з-за ягонай дваістай палітычнай гульні [27].

Кіраўнік Польскай дзяржавы Ю. Пілсудскі прапанаваў старшыні «Рускага палітычнага камітэта» ў Польшчы эсэраўскага напрамку Б. Савінкаву, які пачаў фарміраваць

ваенныя атрады белагвардзейцаў для барацьбы супраць Чырвонай Арміі, запрасіць камандаваць імі Булак-Балаховіча. Пазней, ужо на судовым працэсе, Б. Савінкаў паказаў: «Я адказаў яму, што Балаховіч — бандыт. Памятаю, ён рассмяяўся і адказаў: «Так, бандыт, але не толькі бандыт, а чалавек, які сёння — рускі, заўтра — паляк, паслязаўтра — беларус, а яшчэ пасля заўтра негр»[28]. Далей Б. Савінкаў адзначыў у сваіх паказаннях: «Я пазнаёміўся з Балаховічам і пачаў фарміраваць балахоўскія часці». Дамоўленасць аб супрацоўніцтве Булак-Балаховіча з Савінкавым была зафіксавана дагаворам 27 жніўня 1920 года. Атрады генерала Булак-Балаховіча ў палітычных адносінах былі цяпер падначалены Б. Савінкаву і ўзначальваемаму ім «Рускаму палітычнаму камітэту» ў Польшчы (эквіваленту эміграцыйнага ўрада Расіі), таксама, як і іншыя белагвардзейскія атрады ў Польшчы. У ваенных адносінах гэтыя атрады былі падпарадкаваны камандаванню польскай арміі. Булак-Балаховіч у сваю баявую групу з рускіх атрадаў уключыў і Беларускі атрад, які прывёў з сабой з Эстоніі і ў склад якога ўваходзілі беларусы, палякі з Беларусі і Літвы і рускія. З чэрвеня 1920 года атрады Булак-Балаховіча прымалі ўдзел у баях супраць Чырвонай Арміі на Палессі. Аператыўна гэтыя атрады ўваходзілі ў склад Палескай групы польскіх войск. Яны таксама прымалі ўдзел у барацьбе з Чырвонай Арміяй у раёне Любліна ў жніўні 1920 года і ў наступных аперацыях польскіх войск. Тады атрады Булак-Балаховіча ўваходзілі ўжо ў склад 3-й польскай арміі, якая дзейнічала на Палессі. Булак-Балаховічу ў час контрнаступлення польскіх войск восенню 1920 года даручаліся кавалерыйскія налёты на тылы савецкіх войск, штабы злучэнняў і асобныя часці Чырвонай Арміі, у чым ён меў вопыт яшчэ па дзеяннях у 1919 годзе [29]. Паводле звестак аператыўнай разведкі Чырвонай Арміі, у канцы жніўня 1920 года ў атрадзе Булак-Балаховіча, калі ён знаходзіўся на фронце ў раёне Уладавы (на рацэ Заходні Буг), налічвалася 4 пя-

хотныя палкі (партызанскі, Пскоўскі, Востраўскі і Вазнясенскі) агульнай колькасцю 1 600 штыкоў з 16 кулямётамі, а таксама партызанскі кавалерыйскі полк з трох эскадронаў у 400 шабель. Характэрна, што палкі былі названы па гарадах Пскоўскай губерні, дзе раней ваяваў Булак-Балаховіч. Ваенныя гісторыкі М. Какурын і В. Мелікаў адзначылі: «З'яўленне ў лясіста-балоцістым кутку паміж рр. Прыпяццю і Стырру прадпрымальнага і дзёрзкага партызана Булак-Балаховіча з ягоным атрадам авантурыстаў, які складаўся з трох родаў войск, агульнай колькасцю да 1 000 чалавек, з некалькімі гарматамі, магло зрабіць тылы і камунікацыйныя лініі IV арміі аб'ектам замахаў гэтага партызана»[30]. І сапраўды, атрад Булак-Балаховіча, прарваўшыся скрозь фронт гэтай арміі, разбурыў чыгуначную лінію і 26 верасня ўварваўся ў Пінск, дзе знаходзіўся толькі штаб IV арміі і запасны полк. Частка штаба паспела прарвацца цягніком на Лунінец, а камандарм, начальнік штаба і член рэўваенсавета конна паехалі на захад, да лініі фронта. IV армія аказалася разрэзанай на дзве часткі, а яе кіраванне парушаным. Пінск быў апоўдні 26 верасня заняты балахоўцамі.

Атрады Булак-Балаховіча безупынна папаўняліся за кошт рускіх белагвардзейцаў, мясцовых беларускіх сялян-кулакоў, палякаў-авантурыстаў, перабежчыкаў і няўстойлівых элементаў з ліку палонных чырвонаармейцаў, а таксама дэзерціраў, бандытаў і іншых крымінальных элементаў, якія разлічвалі на лёгкую нажыву, рабаванне. Вярбоўка ў армію Булак-Балаховіча вялася і ў тых мясцовасцях Усходняй Беларусі, якія часова былі заняты ў кастрычніку 1920 года польскімі войскамі. Балахоўцы, сярод якіх было нямала крымінальных злачынцаў або разбэшчаных на вайне людзей, рабавалі насельніцтва, гвалцілі жанчын, арганізоўвалі яўрэйскія пагромы. Нягледзячы на апошнія абставіны, у войску Булак-Балаховіча з ліку сіяністаў фарміраваўся яўрэйскі конны атрад на чале з паручнікам Цэйтліным[31].

Да пачатку лістапада 1920 года значна папоўненыя пры дапамозе Б. Савінкава атрады С. Булак-Балаховіча былі разгорнуты ў «Рускую народную добраахвотніцкую армію» агульнай колькасцю каля 20 тысяч чалавек, з іх каля 15 тысяч у страі [32]. У лік страявых уваходзілі каля 8 тысяч штыкоў і каля 3 тысяч шабель, а таксама 150 кулямётаў і 36 гармат [33]. У склад гэтай «арміі» ўваходзілі 3 пяхотныя і 1 кавалерыйская дывізіі, сялянская пяхотная брыгада, асобны туземны кавалерыйскі полк, полк данскіх казакоў, асабістая сотня генерала Булак-Балаховіча і чыгуначны полк, які да пачатку лістапада 1920 года яшчэ фарміраваўся. У «арміі» Булак-Балаховіча быў даволі высокі працэнт нестраявых, штабных і аддзелаў пры штабах. Паводле асабовага складу найбольш шматлікімі былі 1-я дывізія «смерці» палкоўніка (потым генерал-маёра) Мацвеева і 2-я дывізія палкоўніка Мікошы, якія налічвалі 4 000—4 800 салдат і афіцэраў, і кавалерыйская дывізія палкоўніка С. Паўлоўскага (1100 шабель і штыкоў). Найбольш баяздольнай з іх была 1-я дывізія «смерці», якая складалася з 1-га партызанскага, 2-га Пскоўскага, 3-га Востраўскага і 4-га Вазнясенскага палкоў і іншых падраздзяленняў. Асноўную яе частку складалі салдаты і афіцэры Беларускага атрада, якія прыйшлі на польскі фронт разам з Булак-Балаховічам з Эстоніі. У кавалерыйскай дывізіі найбольш баяздольным лічыўся 1-шы конны полк, які быў разгорнуты ў большасці з коннікаў, што прыйшлі з Эстоніі. Іншыя ж палкі і дывізіі складаліся пераважна з мясцовых жыхароў з Палесся, а таксама з камандзіраў і чырвонаармейцаў, узятых у палон польскімі войскамі падчас летніх і асенніх баёў на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Многія з іх пайшлі ў «добраахвотніцкую армію» пад прымусам. Гэта ўплывала на баяздольнасць шэрагу яе часцей. Так, тры палкі кавалерыйскай дывізіі (гусарскі, уланскі і Тульскі драгунскі), якія ў кастрычніку фарміраваліся ў Слуцку, амаль цалкам (за выключэннем вышэйшага каманднага саставу) складаліся з ваеннапа-

лонных і завербаваных дэзерціраў з Чырвонай Арміі. Фарміраванне «арміі» вялося і па паходжанню асноўнай масы салдат. Так, 2-я дывізія палкоўніка Мікошы складалася з 4-х палкоў: Георгіеўскага, Мінскага, Смаленскага і Віцебскага. 3-я Волжская дывізія генерал-маёра Яраслаўцава складалася з Казанскага, Яраслаўскага, Ніжагародскага і Самарскага палкоў. Назвы палкоў мелі таксама палітычнае значэнне. Б. Савінкаў і С. Булак-Балаховіч, а таксама іх польскія апекуны хацелі паказаць агульнарасійскі характар сваёй «арміі». Разам з тым частка палкоў мела беларускія назвы, што таксама падкрэслівала палітычныя амбіцыіі Булак-Балаховіча.

Задача, якую паставіў польскі генеральны штаб і «Рускі палітычны камітэт» у Польшчы перад «арміяй» Булак-Балаховіча, заключалася ў тым, каб адцясніць з Беларусі савецкія войскі, стомленыя доўгімі баямі, і стварыць на яе тэрыторыі буржуазна-дэмакратычную рэспубліку (рускую па нацыянальнаму складу) на чале з прэзідэнтам Б. Савінкавым, які сам пайшоў у паход, не давяраючы Булак-Балаховічу.

Булак-Балаховіч спачатку планаваў прарыў савецкага фронта ў раёне Мазыра, потым далейшы марш на ўсход з накірункам на Смаленск або Чарнігаў ці Кіеў, у залежнасці ад развіцця падзей. Савінкаў назваў гэты план «шалёным». І сапраўды ён быў авантурысцкім, бо не ўлічваў рэальных сіл Чырвонай Арміі і настрояў сялянства. Сам Балаховіч разлічваў на сялянскае паўстанне ў Беларусі і на масавае дэзерцірства з Чырвонай Арміі, што таксама было нерэальным. Урэшце, пераканаўшыся ў гэтым, ён змяніў план і вырашыў ударыць не на ўсход, а на поўнач — на Бабруйск і Барысаў і заваяваць Беларусь [34]. Але і гэты план быў не пад сілу ягонай «добраахвотніцкай арміі». Беларускае сялянства не падтрымала няпрошанага «вызваліцеля».

Калі «народная добраахвотніцкая армія» была амаль цалкам сфарміравана, Польшча заключыла з Савецкай

Расіяй перамір'е і падпісала дагавор аб папярэдніх умовах міру. Згодна з гэтымі дагаворамі, Польшча не мела права трымаць антысавецкія воінскія фарміраванні на сваёй тэрыторыі і павінна была раззброіць іх. А сілы гэтыя складалі ўкраінская «армія» Пятлюры, «армія» Булак-Балаховіча і атрад генерала Пярмыкіна з кавбрыгадай есаула Якаўлева (яны былі злучаны ў 3-ю армію Врангеля, якая павінна была выступіць на Украінскім фронце).

Але і пасля заключэння перамір'я Пілсудскі і генеральны штаб польскай арміі, як і раней, падтрымлівалі свой план выкарыстання контррэвалюцыйных сіл для нападу на Беларусь, з тым каб звергнуць тут Савецкую ўладу, устанавіць марыянетачны рэжым, а частку Усходняй Беларусі ўжо па канчатковаму мірнаму дагавору далучыць да Польшчы.

Пілсудскі выклікаў старшыню «Рускага палітычнага камітэта» Б. Савінкава і паставіў яму пытанне рубам: «Дайце за 24 гадзіны адказ — ці будзеце вы ваяваць?» 10 кастрычніка, як пасведчыў Савінкаў, адбылося пасяджэнне «Рускага палітычнага камітэта», куды былі запрошаны белагвардзейскія генералы: «На гэтым пасяджэнні сядзелі: генералы — Балаховіч адзін, Балаховіч другі (яшчэ большы бандыт, чым ягоны брат), сядзеў Пярмыкін, сядзеў ваенны прадстаўнік Врангеля Махроў. Я ім паведаміў пра тое, што казаў мне Пілсудскі, і сказаў, што вось я сфарміраваў часці, я сваю задачу выканаў; цяпер вам, ваенным, трэба рашаць, ці будзеце вы ваяваць, ці не; калі не будзеце, то вас эвакуіруюць. Яны аднагалосна пастанавілі — ваяваць [35]. Далей Б. Савінкаў сведчыў: «Генералы заявілі, што яны не хочуць падпарадкоўвацца адзін аднаму... Пярмыкін, выконваючы тэлеграфны загад Врангеля, павінен стаць на флангу ўкраінскай арміі, а Балаховіч заявіў, што ён выбірае іншы накірунак: «Лунінец—Мазыр. ...Я зразумеў, што... Балаховіч будзе падтрыманы

генеральным штабам Польшчы, а Пярмыкін будзе падтрыманы Врангелем, г. зн. французамі»[36].

Аднак не толькі Польшча была зацікаўлена ў наступленні «арміі» Булак-Балаховіча на ўсход. Зацікавіўся і англійскі ўрад і перш за ўсё англійская разведка. Калі «армія» Булак-Балаховіча ў самым пачатку лістапада 1920 года сканцэнтравалася на ўсход ад Лунінца, а штаб яе знаходзіўся ў Кажан-Гарадку, 2 лістапада туды прыбыла англійская ваенная місія ў складзе капітана авіяцыі Сіднея Рэйлі і карэспандэнта газеты «Таймс» сэра Поля Д'юкса. Гэта былі вопытныя афіцэры англійскай разведкі, «спецыялісты» па Савецкай Расіі. Яны знаходзіліся ў штабе ажно да 10 лістапада. Адзін з афіцэраў польскай разведкі, падпаручнік Блоньскі паведамляў у генштаб: «Мэтаю іх візіту было азнаямленне з усімі патрэбамі арміі. Спецыяльную ўвагу яны звярнулі на становішча забеспячэння арміі харчаваннем і абмундзіраваннем. Яны запэўнілі генерала Балаховіча, што Велікабрытанія вельмі зацікавілася справамі генерала, і заявілі, у прыватнасці, што Балаховіч і ягоная армія маюць значна больш шанцаў на поспех у плане рэалізацыі сваіх антыбальшавіцкіх мэтаў, чым мелі ў свой час Юдзеніч, Дзянікін, Калчак, а ў цяперашні час — Врангель». Далей польскі афіцэр разведкі пісаў у рапарце: «Гэтыя прадстаўнікі вельмі зацікавіліся праблемай дыверсій у тыле бальшавіцкіх армій і глыбокай разведкі. Пасля дэталёвага азнаямлення са справамі генерала Балаховіча яны далі яму на працягу 8 дзён, наколькі гэта было магчыма, неабходныя парады і растлумачэнні, з якімі Балаховіч пераважна згадзіўся, прадстаўнікі ад'ехалі ў Варшаву. ...яны накіруюцца ў Лондан з мэтаю атрымаць там адпаведную колькасць неабходных як для ген. Балаховіча, так і для Пятлюры матэрыялаў». Такім чынам, кантакт англійскай разведкі з генералам быў устаноўлены. Адначасова была зроблена ацэнка яго магчымасцей у барацьбе з Савецкай уладай.

На пачатку лістапада 1920 года «армія» Булак-Балахо-

віча сканцэнтравалася ў раёне Турава, г. зн. на той частцы тэрыторыі Савецкай Беларусі, якая ў кастрычніку была акупіравана польскімі войскамі. А польскія войскі ўжо пачалі адыход да толькі што вызначанай дзяржаўнай граніцы з БССР. Яны якраз і адышлі ў раён Турава і далей на захад.

Пасля падпісання папярэдняга мірнага дагавора 12 кастрычніка 1920 года паміж Польшчаю і Савецкай Расіяй польскае камандаванне ў сувязі з патрабаваннем савецкай дэлегацыі ў Рызе вымушана было фармальна спыніць адносіны з белагвардзейскімі войскамі на тэрыторыі Польшчы і прапанаваць ім пакінуць яе пад пагрозаю раззбраення да 2 лістапада 1920 года. Польскі ўрад заявіў, што ён раззброіў атрад Балаховіча, які застаўся на польскай тэрыторыі і які складаўся з брыгады цяжкай артылерыі і бронецягніка. 13 лістапада 1920 года, калі ў Рызе пачаліся перагаворы аб канчатковым міры з Польшчай, прадстаўнік польскай дэлегацыі Я. Домбскі заявіў, што датычыцца атрадаў Пятлюры і Балаховіча, то Польшча не можа іх раззброіць, бо яны не знаходзяцца ў межах Польшчы [37]. Фактычна ж Польшча падштурхнула ўкраінскую «армію» Пятлюры (у раёне Магілёва-Падольскага), рускія «арміі» Пярмыкіна (у раёне Праскурава) і Булак-Балаховіча пачаць наступленне супраць Чырвонай Арміі.

Невялікія атрады балахоўцаў нападалі на часці Чырвонай Арміі ўжо ў першыя дні лістапада. 6 лістапада «армія» Булак-Балаховіча перайшла ў наступленне па абодвух берагах Прыпяці на ўсход сіламі сваіх трох пяхотных і адной кавалерыйскай дывізій. Сялянскія брыгады і яе Пуцілўльскі конна-стралковы полк дзейнічалі на поўдні беларускага Палесся (раён Ельск-Оўруч)[38]. Такім чынам, пад агульным камандаваннем Булак-Балаховіча дзейнічала каля 15—16 тысяч салдат і афіцэраў, улічваючы часці, якія фарміраваліся ўжо ў ходзе акцыі, што пачалася. 7 лістапада 1920 года ў Варшаве былі апублікаваны дэпе-

шы С. Булак-Балаховіча і Б. Савінкава аб пачатку барацьбы за «незалежную Беларусь».

Галоўны ўдар колькасна пераважаючага ворага абрушыўся на 10-ю стралковую дывізію, якая панесла значныя страты і вымушана была адступіць. Праціўнік, адцясняючы слабыя і раскіданыя на вялікай працягласці часці 10-й дывізіі, 8-га лістапада апоўдні заняў Петрыкаў, а 9-га лістапада — Скрыгалаву Слабаду, дзе учыніў пагром. Па меры прасоўвання «арміі» Булак-Балаховіча наперад адпор савецкіх войск узрастаў. Пасля цяжкага бою Пскоўскі полк 1-й дывізіі «смерці» палкоўніка Мацвеева 10 лістапада ў 16 гадзін 40 мінут заняў Мазыр. Праз дзве гадзіны ў Мазыр уступілі і палкі кавалерыйскай дывізіі палкоўніка Паўлоўскага. Мазыр зрабіўся цэнтрам ваеннай і палітычнай дзейнасці і месцам знаходжання Булак-Балаховіча, яго «сталіцаю». Палкоўнік Паўлоўскі з палонных сфарміраваў Мазырскі полк, але палонныя не мелі вялікай ахвоты ваяваць. У гэты ж дзень, 10 лістапада, Востраўскі полк 1-й дывізіі Балаховіча заняў Калінкавічы.

Рыхтуючыся да рашаючых аперацый супраць Булак-Балаховіча, камандаванне XVI арміі меркавала адрэзаць яго ад зносін з тэрыторыяй, яшчэ занятай польскімі войскамі, і акружыць у раёне Мазыра. Рабілася перагрупоўка часцей і тых злучэнняў, якія прыбылі на фронт.

Пакуль праводзілася гэтая перагрупоўка, праціўнік зноў перайшоў у наступленне. Яму супрацьстаяла ўсё тая ж 10-я дывізія, якая вымушана была адступаць. 2-я пяхотная дывізія — ад Калінкавіч на Рэчыцу, група палкоўніка Язэпа Балаховіча (малодшага брата генерала) з двух пяхотных і трох кавалерыйскіх палкоў наступала на Рэчыцу з поўдня. Частка балахоўскіх атрадаў рухалася на Оўруч і Чарнобыль і ўступіла на тэрыторыю Украіны. Вораг падчас баёў захапіў палонных, частка з якіх (кулацкія і няўстойлівыя элементы) сумесна з дэзерцірамі і мясцовымі бандытамі далучылася да балахоўцаў. Да канца дня 16 лістапада праціўнік з трох бакоў падышоў да

Рэчыцы і завязаў бai на ўскраінах горада. Бai працягваліся ўвесь дзень 17 лістапада.

Пасля захопу Мазыра Б. Савінкаў выдаў адозву аб тым, што «руская народная армія» неўзабаве пойдзе ў Расію, займе Маскву, дзе будзе скліканы Усерасійскі ўстаноўчы сход. Іншыя намеры былі ў генерала. Булак-Балаховіч вырашыў здзейсніць свае славалюбныя планы. Пераймаючы палітычную паставу Пілсудскага, ён спрабаваў абвясціць сябе «начальнікам Беларускай дзяржавы» (дакладна так называлася пасада Пілсудскага ў Польшчы). Прыбыўшы 12 лістапада ў Мазыр, С. Булак-Балаховіч выдаў шэраг загадаў і актаў. Перш за ўсё ён, камандуючы «рускай народнай добраахвотніцкай арміяй», абвясціў «незалежнасць» Беларусі. 14 лістапада ён выдаў загад аб фарміраванні «беларускай арміі» з беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, якія знаходзіліся ў ягонай «арміі». Так былі створаны сялянскі партызанскі атрад, Хабенскі полк. Ён таксама абвясціў сябе «галоўнакамандуючым усімі ўзброенымі сіламі на тэрыторыі Беларусі» (мелася на ўвазе не толькі ягоная новая «беларуская армія», але і іншыя антысавецкія мясцовыя атрады і групы). Камандаванне ж «рускай народнай добраахвотніцкай арміяй» ён перадаў свайму брату палкоўніку Язэпу Булак-Балаховічу, якому адразу ж надаў чын генерал-маёра. Начальнік гарнізона Мазыра рускі генерал-маёр Ярaслаўцаў загадаў усім домаўладальнікам у горадзе вывесіць беларускія нацыяналістычныя сцягі. Але і далей С. Булак-Балаховіч камандаваў усёй сваёй «арміяй» — як «рускай», так і «беларускай».

Цяпер можна было не прызнаваць беларускага эміграцыйнага ўрада А. Луцкевіча ў Варшаве і беларускага эміграцыйнага ўрада В. Ластоўскага ў Каўнасе, не гаворачы ўжо пра беларускі савецкі ўрад на чале з Е. Чарвяковым у Мінску, супраць якога і выступаў генерал.

Восенню 1920 года ў Варшаве з беларускіх нацыяналістычных дзеячаў правага накірунку і польскай арыента-

цыі стварыўся Беларускі палітычны камітэт, у які ўваходзілі П. Аляксюк, В. Адамовіч, Міткевіч, Я. Сянкевіч і іншыя. Яшчэ 12 кастрычніка 1920 года гэты камітэт заключыў пагадненне з Station Станіславам Булак-Балаховічам. У сваім лісце да генерала члены камітэта пісалі, што яны падтрымліваюць «армію» генерала, у якой служыць шмат беларусаў. Яны перакананыя, што гэтая «армія» прынясе Беларусі «сапраўдную вольнасць і магчымасць стварэння свайго дзяржаўнага быту». Беларускі палітычны камітэт абавязаўся весці сярод беларусаў у Польшчы вярбоўку ў «беларускую армію», што будзе створана Булак-Балаховічам, а ён быў павінен, у сваю чаргу, перадаць гэтаму камітэту грамадзянскую ўладу. Беларускі палітычны камітэт устанавіў кантакт з «Рускім палітычным камітэтам» Б. Савінкава, каб весці агульную барацьбу супраць Савецкай улады. Але Савінкаў і ягоныя паплечнікі ставіліся непрыхільна да намаганняў П. Алексюка і В. Адамовіча стварыць у Мазыры новы беларускі ўрад [39].

У Мазыр з Варшавы прыбылі члены Беларускага палітычнага камітэта П. Аляксюк і В. Адамовіч, якія падтрымлівалі Булак-Балаховіча і прапанавалі яму пасаду «кіраўніка дзяржавы». Аляксюк і Адамовіч заключылі з Булак-Балаховічам і Савінкавым умову аб супрацоўніцтве. Акрамя ваенных пунктаў (якія не былі абвешчаны), ва ўмове меліся палітычныя пункты. Савінкаўская газета ў Польшчы «Свобода» змясціла іх:

«§ 1. Беларускі палітычны камітэт і Руская добраахвотніцкая народная армія, выходзячы з прызнання права на самавызначэнне народаў, прызнаюць факт незалежнасці беларускай дзяржавы. Канчатковая форма ўзаемаадносін паміж Расіяй і Беларуссю будзе ўстанаўляцца згодай паміж Устаноўчымі соймамі рускім і беларускім ці ўрадамі, гэтымі Устаноўчымі соймамі назначанымі.

§ 2. Абодва бакі выражаюць упэўненасць, што формы гэтыя будуць адказваць іх жыццёвым інтарэсам» [40].

Такім чынам, пагадненне паміж саюзнікамі было складзена ў даволі асцярожных выразах, якія б не вельмі звязвалі абодва бакі і давалі б ім поле для палітычных манеўраў. Булак-Балаховіч аб'явіў аб «звяржэнні» абодвух беларускіх эміграцыйных урадаў Ластоўскага (заграмнічны цэнтр партыі беларускіх эсэраў) і Луцкевіча і назначыў прэм'ер-міністрам свайго ўрада старшыню Беларускага палітычнага камітэта П. Алексюка.

Па-іншаму складваліся адносіны да Булак-Балаховіча самай буйной беларускай дробнабуржуазнай партыі — партыі беларускіх эсэраў. Беларускія эсэры, якія адносіліся варожа да Польшчы, падтрымалі яе стаўленніка генерала С. Булак-Балаховіча. Афіцыйна не прызнаючы Булак-Балаховіча лідэрам «беларускага нацыянальнага руху», беларускія сацыялісты-рэвалюцыянеры прынялі ўдзел у нападзе на Савецкую Беларусь у лістападзе 1920 года «рускай народнай добраахвотніцкай арміі» на чале з Булак-Балаховічам і спрабавалі ўзяць часці гэтай арміі пад свой кантроль, асабліва ў перыяд фарміравання «беларускай арміі» ў Мазыры і пры арганізацыі там чарговага беларускага буржуазнага ўрада. У гэтай авантуры яны цесна супрацоўнічалі з рускімі эсэрамі з «Рускага палітычнага камітэта» ў Польшчы. Толькі частка багатага сялянства і дэзерціраў на занятай «арміяй» Балаховіча тэрыторыі Палесся спачатку паддалася прапагандзе эсэраў, нацыяналістаў з штаба Булак-Балаховіча і ягонага «беларускага ўрада» ў Мазыры і ўступала ў беларускія палкі [41], якія разам з «народнай арміяй» былі адкінуты часцямі Чырвонай Арміі ў Польшчу.

Поспехі Булак-Балаховіча былі часовымі. Разлікі на падтрымку яго паходу з боку сялянства не апраўдаліся. У ходзе ваенных дзеянняў наступіў пералом. Пачаў здзяйсняцца план камандавання Чырвонай Арміі акружыць Булак-Балаховіча і знішчыць яго «армію». З боку Жлобіна наступленне Чырвонай Арміі пачалося 16 лістапада. Ужо вечарам 17 лістапада былі вызвалены Калінка-

вічы. У раёне Рэчыцы балахоўцы спынілі атакі 18 лістапада, і войскі Чырвонай Арміі і тут перайшлі ў наступленне. 19 лістапада пачаўся агульны адыход «арміі» Балаховіча. 2-я пяхотная дывізія балахоўцаў упарта абараняла Мазыр, які быў узяты 51-й брыгадай 17 стралковай дывізіі 20 лістапада. Дывізія «смерці» і кавалерыйская дывізія Паўлоўскага адыходзілі ад Рэчыцыляснымі дарогамі ў абход Мазыра з поўначы і поўдня. Пры гэтым вораг нёс вялікія страты, галоўным чынам палоннымі. Усё ж асноўнай частцы «арміі» Балаховіча ўдалося прабіцца скрозь заслоны 33-й Кубанскай казацкай дывізіі 22 лістапада ў раёне Каплічы—Якімавічы (на поўнач ад Мазыра) і фарсіраваць 24 лістапада Пціч. 26 лістапада банды Булак-Балаховіча выйшлі праз Жыткавічы да станцыі Сінкевічы ў раён размяшчэння польскіх войск. «Армія» Балаховіча, якая сабралася ў раёне Тураў — Давыд-Гарадок—Лахва, была часткова раззброена польскімі войскамі (паводле ўмоў перамір'я), часткова перайшла ў нейтральную зону, каб адтуль працягваць вайну супраць Савецкай улады. 2 снежня Булак-Балаховіч выдаў загад аб стварэнні спецыяльнай камісіі для ліквідацыі «народнай арміі»[42]. Страты балахоўцаў склалі палоннымі 3 540 салдат і 120 афіцэраў. Былі ўзяты трафеі: 4 гарматы, 40 кулямётаў, 1 286 вінтовак і сцяг. Страты часцей Чырвонай Арміі склалі 2 588 чырвонаармейцаў і 99 камандзіраў[43]. У наступныя гады Булак-Балаховіч арганізаваў налёты сваіх бандаў на савецкую тэрыторыю з польскай (аж да 1922 года).



Узброенае ўварванне «арміі» Булак-Балаховіча на тагачасную тэрыторыю БССР, РСФСР (Гомельская губерня тады ўваходзіла ў склад РСФСР) і УССР (на паўночныя ўскраіны ўкраінскага Палесся) мела непасрэдную сувязь з слуцкім мяцяжом 1920 года. Як было паказана вышэй,

у Слуцку ў кастрычніку 1920 года ў час так званай «другой польскай акупацыі» горада (першая была ў жніўні 1919 — ліпені 1920 гадоў) фарміраваліся палкі кавалерыйскай дывізіі балахоўскай «арміі». Сярод некаторай часткі нацыяналістаў у Слуцку былі і прыхільнікі Булак-Балаховіча. Гэта мела ўплыў і на развіццё падзей у акупіраваным польскімі войскамі Слуцку.

Як у авантуры Булак-Балаховіча, так і ў перыяд слуцкага мяцяжу, контррэвалюцыйныя сілы рабілі стаўку на сялянства Беларусі, намагаючыся адарваць яго ад саюза з рабочым класам, саштурхнуць на антысавецкія пазіцыі. Яны спрабавалі выкарыстаць вядомыя палітычныя хістанні сялянства.

У. І. Ленін у прамове на ўсерасійскім з'ездзе транспартных рабочых 27 сакавіка 1921 года гаварыў пра сялянства, якое стаіць паміж развітым капіталам і пралетарыятам: «Гэта — дробная буржуазія, дробныя гаспадары, гэта тое, што ў Расіі складае пераважную большасць насельніцтва — сялянства»[44]. У. І. Ленін адзначыў змяненні, якія адбыліся пасля рэвалюцыі: «Вёска за гэты час выраўнавалася. Зменшылася колькасць буйных пасеўшчыкаў і беспасеўшчыкаў, павялічылася гаспадарка серадняцкая. Наша вёска стала за гэты час больш дробнабуржуазнаю»[45]. У сувязі з дробнабуржуазным характарам сялянскай масы ў цэлым у яе асяроддзі былі вядомыя палітычныя хістанні: «Вы ведаеце, якая гэта сіла з пункту гледжання яе палітычнага настрою. Гэта — сіла хістання. Гэта мы бачылі на сваёй рэвалюцыі ва ўсіх канцах краіны — у Расіі па-свойму, у Сібіры па-свойму, на Украіне па-свойму, але ўсюды вынік быў адзін: гэта — сіла хістання... Гэта сіла хісталася паміж кіраўніцтвам пралетарыята і кіраўніцтвам буржуазіі»[46].

Гэтыя выказванні У. І. Леніна прымянімы да характарыстыкі сялянства Беларусі.

Параўноўваючы кулацка-эсэраўскі мяцеж у Слуцку ў 1920 годзе з іншымі такімі мяцяжамі на тэрыторыі Са-

вецкай краіны, трэба адзначыць, што і тут асноўную ролю выконвалі кулацкія элементы, узначальваемыя эсэрамі, цэнтры якіх знаходзіліся за мяжою. У. І. Ленін у прамове на сходзе партыйнага актыву Масквы 24 лютага 1921 года гаварыў: «Трэба змагацца са становішчам, што стварылася і якое пагоршылася і ва ўнутраных, і ў міжнародных адносінах. Мір з Польшчаю да гэтага часу яшчэ не заключаны, унутры — узрастанне бандытызму і кулацкія паўстанні.

У бандытызме адчуваецца ўплыў эсэраў. Галоўныя сілы іх за мяжой... Эсэры звязаны з мясцовымі падпальшчыкамі»[47].

Асаблівасцю слуцкага мяцяжу было тое, што адбываўся ён на тэрыторыі Савецкай Беларусі, афіцыйна прызнанай урадам Польшчы ў прэлімінарным (папярэднім) мірным дагаворы, але ва ўмовах ваеннай акупацыі гэтай тэрыторыі польскімі войскамі і ў момант, які папярэднічаў адыходу польскіх войск, затым мяцеж працягваўся ў раёне нейтральнай зоны.

Слуцк і Слуцкі павет у перыяд так званай другой польскай акупацыі ў кастрычніку—лістападзе 1920 года з'яўляўся месцам канцэнтрацыі 11-й і 16-й пяхотных польскіх дывізій. Тут жа ў кастрычніку 1920 года фарміраваліся гусарскі, уланскі і Тульскі драгунскі палкі «рускай народнай добраахвотніцкай арміі» генерала С. Булак-Балаховіча непасрэдна перад ягоным рэйдам на Палессе. Такім чынам, ваеннае прыкрыццё антысавецкіх узброеных сіл садзейнічала мясцовым беларускім буржуазным дзеячам у арганізацыі прамога выступлення супраць Савецкай улады.

Прадстаўнікі Булак-Балаховіча падчас знаходжання польскіх войск у Слуцку ў лістападзе 1920 года вялі шырокую агітацыю за ўступленне мясцовых жыхароў і дэзерціраў у «армію» белагвардзейскага генерала. Яны правялі сход прадстаўнікоў розных арганізацый і дэзерціраў і, агітуючы іх за ўступленне ў «войска» Балаховіча,

дэмагагічна абяцалі зямлю сялянам, ліквідацыю памешчыцкага землеўладання (як быццам бы гэта не было праведзена Савецкай уладаю!)[48].

Беларускія нацыяналісты мелі свае арганізацыі ў Слуцку ўжо некалькі гадоў. Яшчэ ў лістападзе 1919 года, падчас польскай акупацыі, паводле інструкцыі нацыяналістычных дзеячаў з Мінска, сход з 16 чалавек выбраў так званы «Беларускі нацыянальны камітэт Случчыны» з 5 членаў на чале з эсэрам У. Пракулевічам. Гэты камітэт з дазволу польскіх улад вёў культурную і кааператыўную працу на выключна нацыяналістычнай аснове [49]. Пасля вызвалення Слуцка Чырвонай Арміяй у ліпені 1920 года «Беларускі нацыянальны камітэт» і ягоны кааператыў былі зачынены. Але з лета 1920 года ў горадзе працаваў «Камітэт партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў)», бо ў час вызвалення Беларусі ад польскіх акупантаў Чырвонай Арміяй партыя беларускіх эсэраў, якая ўдзельнічала ў барацьбе супраць польскіх акупантаў, заявіла аб прызнанні Савецкай улады і аб гатоўнасці працаваць у савецкіх органах. Таму партыя беларускіх эсэраў была легалізавана Мінскім губернскім рэўкомам, а член ЦК БПС-Р А. Трафімаў быў уведзены ў склад Белрэўкома. Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі была выпрацавана ў час перагавораў ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, ЦК Беларускай Камуністычнай арганізацыі, ЦК Бунда і ЦК БПС-Р. Аднак пры абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 31 ліпеня 1920 года беларускія эсэры адмовіліся падпісаць дэкларацыю. Яны запатрабавалі стварэння «кааліцыйнага ўрада сацыялістычных партый», разрыву адносін Беларусі з Савецкай Расіяй, стварэння асобнай беларускай арміі, а гэтае патрабаванне, натуральна, было адкінута бальшавікамі Беларусі. Тым не менш партыя беларускіх эсэраў (БПС-Р) працягвала дзейнічаць легальна на тэрыторыі Савецкай

Беларусі і буржуазнай Літвы і нелегальна — на акупіраванай польскімі войскамі тэрыторыі.

Восенню 1920 года, калі польскія войскі пайшлі ў контрнаступленне, беларускія эсэры вырашылі выступіць супраць Савецкай улады. Пры гэтым яны не спынялі легальнай дзейнасці ў БССР, але намагаліся выкарыстаць палітычную сітуацыю для звяржэння Савецкай улады і ўстанаўлення ў Беларусі буржуазна-дэмакратычнага рэжыму Беларускай народнай рэспублікі. ЦК БПС-Р вёў складаную палітычную гульню. Беларускія эсэры рабілі стаўку на сялянства Беларусі, намагаючыся адарваць яго ад саюза з рабочым класам, саштурхнуць на антысавецкія пазіцыі, выкарыстаць палітычныя хістанні сялянства.

Адразу пасля заняцця Слуцка польскімі войскамі «Беларускі нацыянальны камітэт» узнавіў сваю дзейнасць. У Варшаву для сувязі з «Найвышэйшай радай БНР» і яе ўрадам (польскай арыентацыі, у адрозненне ад іншага беларускага ўрада В. Ластоўскага ў Каўнасе — літоўскай арыентацыі) паехаў прадстаўнік Беларускага камітэта ў Слуцку П. Жаўрыд. У час гэтай паездкі ён атрымаў грошы ад польскіх улад для падтрымкі беларускіх нацыяналістаў у Слуцку [50].

Сярод беларускіх нацыяналістычных дзеячаў у Слуцку не было адзінства. Тут існавалі групы розных палітычных поглядаў. Яны спрабавалі захапіць галоўныя пасады ў «Беларускім нацыянальным камітэце», каб мець магчымасць кіраваць горадам і паветам перад адыходам польскіх войск з Слуцка.

Адна з гэтых груп 2 лістапада 1920 года арганізавала сход («прадстаўнікоў горада» і двух чалавек з вёскі), на якім да старога складу камітэта было дадана яшчэ 7 членаў. Але стары камітэт, у які ўваходзілі ў асноўным беларускія эсэры, не прызнаў паўнамоцтваў некаторых абраных членаў, абвінаваціўшы іх у тым, што яны «русіфікатары»[51]. Нават старшыня «Беларускага нацыянальнага камітэта» ў Слуцку ўрач А. Паўлюкевіч быў абвінавача-

ны ў тым, што ён дрэнна гаворыць па-беларуску, а дагэтуль пагардліва ставіўся «да ўсяго беларускага». Абвінавачванні гэтыя мелі падставу, паколькі шмат хто з нацыяналістаў былі прадстаўнікамі мясцовай буржуазнай інтэлігенцыі беларускага паходжання, якія атрымалі адукацыю ў расійскіх гімназіях і універсітэтах і не ўжывалі ніколі роднай мовы, а гаварылі выключна на рускай. Але сапраўды такімі абвінавачаннямі прыкрывалася звычайная барацьба за ўладу. Акрамя таго, у Слуцку сабралася нямала рускіх белагвардзейцаў, дэзерціраў з Чырвонай Арміі і іншых антысавецкіх элементаў рускага паходжання.

Польскія ваенныя ўлады, якія стаялі за кулісамі гэтага «перавароту», перадалі грамадзянскую ўладу ў Слуцку «Беларускаму нацыянальнаму камітэту»[52]. У камітэце кіруючую ролю адыгрывалі прыхільнікі Булак-Балаховіча і міністра беларускага «ўрада» (камітэта) у Варшаве П. Алексюка (П. Аляксюк быў пазней выкрыты як агент польскай палітычнай паліцыі — дэфензівы), які ў сярэдзіне лістапада 1920 года стаў прэм'ер-міністрам пры штабе Булак-Балаховіча ў Мазыры. Гэтая групоўка дзеячаў у камітэце на чале з Паўлюкевічам была цесна звязана з польскімі ўладамі.

У данясенні ў «Беларускую вайсковую камісію» ў Лодзі (ваенны нацыяналістычны орган пры польскай арміі) ад 10 лістапада зазначалася: «Палітыка Нацыянальнага Камітэту не мае нічога агульнага з былым Камітэтам. У горадзе развяваецца беларускі бела-чырвона-белы сцяг. Адміністрацыя і гаспадарка ў руках беларусаў. Ваенная ўлада польская. Палякі адносяцца дружалюбна і ўпотай дапамагаюць (неафіцыйна). Арганізавана беларуская міліцыя (войска нельга, дзякуючы Рызе) у ліку 5 000 чалавек. На чале яе афіцэр Мацэлі з нашага Мінскага рэзерву» (мінскі рэзерв «Беларускай вайсковай камісіі» — мясцовая ваенная арганізацыя беларускіх нацыяналістаў пры штабе польскіх войск у Мінску ў перыяд яго акупацыі ў

1919—1920 гадах). Такім чынам, беларускія нацыяналістычныя дзеячы польскай арыентацыі не ўтойвалі, што стварэнне новага камітэта было справай польскіх акупацыйных улад, якія выкарыстоўвалі буржуазных нацыяналістаў у сваёй антысавецкай дзейнасці.

Перадача ўлады ў Слуцкім павеце працягвалася. Начальнік павятовай «беларускай міліцыі» (у яе складзе на самай справе было толькі 500 чалавек [53]) Мацэлі рабіў запіс добраахвотнікаў у «рэзерв народнай міліцыі» (лічба 5 000 чалавек улічвае гэты «рэзерв»). Мацэлі з'яўляўся прыхільнікам Булак-Балаховіча і імкнуўся, напэўна, па падказцы польскіх улад выкарыстаць гэты «рэзерв» для папаўнення «арміі» Балаховіча, у тым ліку і для стварэння беларускіх часцей гэтай «арміі». Мацэлі аб'явіў тым, хто запісаўся ў міліцыю, што ўсе яны будуць накіраваны ў «армію» Булак-Балаховіча. Адразу ж пачалося незадавальненне, і «ўсе пачалі ўцякаць з міліцыі», нават нягледзячы на тое, што афіцэрам абяцалі па 12 тысяч польскіх марак у месяц, добрае абмундзіраванне і рэвальвер, а салдатам — абмундзіраванне і па 60 польскіх марак у дзень. Прадстаўнікі Булак-Балаховіча ў Слуцку вялі і асобна агітацыю за ўступленне ў ягоную «армію». Быў склікана сход, на якім прысутных угаворвалі ўступаць, але сход сустрэў гэтыя заклікі маўчаннем, нават дэзерціры [54].

Беларускія нацыяналісты, атрымаўшы ўладу ў горадзе і павеце, перш за ўсё пачалі арганізацыю ваенных атрадаў для барацьбы з Савецкай уладай.

У валасцях замест прызначаных польскімі ўладамі войтаў былі створаны «беларускія камітэты», потым такія ж камітэты былі створаны ў вёсках замест прызначаных польскімі ўладамі солтысаў. Менавіта такім чынам нацыяналістычныя дзеячы спрабавалі выкарыстаць дэмакратычную форму мясцовага кіравання, якая была разлічана на падман народных мас. Карыстаючыся падтрымкай кулацтва, у сельскіх «нацыянальных камітэтах» заселі бе-

ларускія эсэры, якія дэмагагічнымі лозунгамі намагаліся прыцягнуць на свой бок серадняка.

Прадстаўнікі беларускіх эсэраў на чале з суддзёю У. Пракулевічам, якія ігралі ролю «незалежных» ад Польшчы, вырашылі сабраць «з'езд Случчыны», каб з яго дапамогаю захапіць уладу ў Слуцку і павеце. Гэтая задума была падтрымана польскім камандаваннем, а, значыць, на скліканне такога з'езда згадзілася і большасць «Нацыянальнага камітэта». Беларускія эсэры разлічвалі на падтрымку сялянства, якое, на іх погляд, павінна было складаць большасць на з'ездзе. Для гэтай мэты інструктарамі па выбарах прадстаўнікоў на з'езд ад валасцей былі накіраваны спецыяльна падабраныя людзі, актывісты партыі беларускіх эсэраў. Ва ўмовах польскай акупацыі былі праведзены так званыя «выбары» на з'езд: па 5 прадстаўнікоў ад кожнай воласці і па 1 ад беларускіх культурна-асветніцкіх гурткоў [55]. Зразумела, склад дэлегатаў на з'езд быў загадзя прадвызначаны. Пра свабоднае волевыяўленне народа няма і гаворкі. А значыць, былі выбраны тыя, хто трэба: нацыяналісты, варожа настроеныя да Савецкай улады.

Польскія ўлады не запярэчылі супраць склікання «з'езда Случчыны», таму што акрамя авантуры Булак-Балаховіча, якая ўжо пачалася на Палессі, намагаліся хутчэй стварыць яшчэ адзін контррэвалюцыйны ачаг у Савецкай Беларусі. Польскія дыпламаты на перагаворах у Рызе ўсяляк выкарыстоўвалі гэтыя акцыі, як і выступленне Пятлюры на Украіне, каб вытаргаваць новыя ўступкі пры падпісанні канчатковага міру. Паводле ўмоў прэлімінарнага (папярэдняга) дагавора, ён уступаў у сілу пасля абмену ратыфікацыйнымі граматамі. Да канца кастрычніка 1920 года дагавор быў ратыфікаваны. Пасля ратыфікацыі войскі абодвух бакоў павінны былі адыходзіць і размясціцца ў 15 кіламетрах па абодвух баках ад лініі дзяржаўнай граніцы [56]. Аднак гэты пункт дагавора аб перамір'і не вытрымліваўся польскім бокам. У Беларусі гэта

азначала падтрымку паходу Булак-Балаховіча на Палессі і антысавецкіх дзеянняў беларускіх нацыяналістаў у Слуцкім павеце. У такіх палітычных абставінах разгортваліся падзеі ў Слуцку.

«Першы беларускі з'езд Случчыны» адбыўся 14—15 лістапада 1920 года ў Слуцку ў вялікай зале дома Э. Вайніловіча, найбагацейшага памешчыка ў павеце. На з'езд сабралася 107 «прадстаўнікоў Слуцка і 15 валасцей Слуцкага павету» з правам пастанаўляючага голасу і 10 прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу. На з'ездзе прысутнічалі афіцэры беларускіх часцей Булак-Балаховіча і прадстаўнікі буржуазна-нацыяналістычнага беларускага ўрада ў Варшаве (у тым ліку камісар «Найвышэйшай рады БНР» у Слуцкім павеце П. Жаўрыд), а таксама афіцэры штаба 11-й польскай пяхотнай дывізіі, раскватараванай у раёне Слуцка. Такім чынам, і беларускія эсэры, якія ігралі ролю «незалежных», адкрыта супрацоўнічалі з польскімі ўладамі, якія, у сваю чаргу, падтрымлівалі кожнае антысавецкае выступленне ў захопніцкіх мэтах.

Самыя розныя антысавецкія палітычныя сілы імкнуліся ўплываць на ход «з'езда» і выкарыстаць яго ў сваіх мэтах. «З'езд» адкрыўся 14 лістапада ■ 12 гадзіне дня і працягваўся да 10 гадзін вечара 15 лістапада. Кіраўніцтва ім захапілі ў свае рукі беларускія эсэры. Старшынёю «з'езда» быў выбраны В. Русак, а віцэ-старшынёю У. Пракулевіч.

На «з'ездзе» склалася даволі моцная групоўка прыхільнікаў Булак-Балаховіча на чале з Паўлюкевічам, паручнікам Мацэлі і раённымі начальнікамі «міліцыі». Яна абапіралася на дэлегацыю, якая ездзіла раней да Булак-Балаховіча, на чале з мясцовым ураджэнцам капітанам Самусевічам. Ён заявіў на «з'ездзе», што «Булак-Балаховіч абароніць Случчыну ад бальшавікоў» і што для гэтага трэба «даць сваіх сыноў на змаганне». Самусевіч сказаў, што Булак-Балаховіч даручыў яму сфарміраваць Слуцкі полк і камандаваць ім. Аднак гэтая заява не су-

стрэла водгуку сярод удзельнікаў «з'езда», таму што прыхільнікі Балаховіча былі ў меншасці. Іх праціўнікі ў барацьбе за ўладу, у асноўным члены партыі беларускіх эсэраў, абвінавачвалі «балахоўствуючых», што тыя — замаскіраваныя рускія белагвардзейцы. Яны заклікалі «не верыць ніякім расійскім абяцанкам». Значную частку ўдзельнікаў «з'езда» складалі беларускія эсэры і прадстаўнікі кулакоў, якія падтрымлівалі іх (так званыя «беларускія незалежнікі»). Яны выстаўлялі звычайныя для эсэраў дэмагагічныя лозунгі і актыўна рваліся да ўлады. Адным з такіх лозунгаў быў заклік да адзінства беларускіх інтэлігентаў і беларускіх сялян у барацьбе з «маскафільствам». Былі на «з'ездзе» і людзі, якія не прымыкалі да гэтых асноўных груповак.

На дзейнасць «з'езда» аказвала ўплыў «Найвышэйшая рада БНР» (якая прадстаўляла ў асноўным партыю беларускіх сацыял-дэмакратаў на чале з А. Луцкевічам) праз свайго камісара П. Жаўрыда. Апошні заявіў, што гэтая рада зрабіла адпаведныя захады польскаму ўраду і што, калі сяляне Случчыны захочуць паўстаць, дык дапамога ім будзе аказана. Такім чынам, «беларускі ўрад» у Варшаве падштурхоўваў нацыяналістычных дзеячаў у Слуцку на ўзброеную барацьбу супраць Савецкай улады. Разам з тым ён атрымаў у гэтай справе падтрымку і польскіх улад. Беларускія эсэры ў Слуцку па сваёй партыйнай салідарнасці больш схіляліся да падтрымкі «беларускага эмігранцкага ўрада» В. Ластоўскага ў Коўна (ён амаль цалкам складаўся з беларускіх эсэраў), але да Літвы было далёка, а, акрамя таго, Польшча і Літва былі аддзелены фронтам (генерал Л. Жэлігоўскі ваяваў з Літвою з-за Вільні), і прадстаўнікам «урада» Ластоўскага было цяжка прабрацца ў Слуцк. Таму мясцовыя беларускія эсэры, нягледзячы на тое, што аб'яўлялі сябе «незалежнымі», арыентаваліся і шукалі падтрымку ва ўсіх тых, хто яе даваў. Склад «з'езда» і згуртаванне ўсіх контррэвалюцыянераў на антысавецкай і антыбальшавіцкай аснове і прад-

вызначылі характар прынятых ім рэзалюцый. Арганізатары «з'езда» мелі намер падняць сялянства супраць Савецкай улады і таму ў пастановах усяляк падкрэслівалі, што гэта «з'езд сялянскіх прадстаўнікоў Случчыны». Мэтаю мяцяжа супраць Савецкай улады было аддзяленне Слуцкага павета ад Савецкай Беларусі пад выглядам «народнага волевыяўлення», падтрыманага штыкамі мяцежнікаў.

«З'езд» 14 лістапада прыняў рэзалюцыю, у якой вітаў «Найвышэйшую раду Беларускай народнай рэспублікі» і заявіў катэгарычны пратэст супраць Савецкай улады ў Беларусі «як чужацкай». У рэзалюцыі змяшчаўся заклік «да ўсяго свету і Лігі Нацый аб дапамозе ў стварэнні нашай вайсковай сілы». Такім чынам, асноўным зместам гэтай рэзалюцыі было рашэнне падняць мяцеж супраць Савецкай улады («супраць акупацыі») за «незалежную Беларусь». Заканчвалася рэзалюцыя наступнай фразай: «Шчыра вітаем нашу сястру Польшчу»[57]. Пры гэтым арганізатары «з'езда» «не заўважылі», што Польшча па ўмовах Рыжскага прэлімінарнага дагавора далучыла да сябе Заходнюю Беларусь. Пратэсту супраць гэтага «барацьбіты за незалежнасць» Беларусі не заяўлялі. «З'езд» выбраў «раду Случчыны» Беларускай народнай рэспублікі ў складзе 17 чалавек на чале з У. Пракулевічам, даверыў ёй цывільную ўладу і даручыў арганізацыю войска. Гэтая «рада» лічылася нацыяналістамі часовым урадавым органам аж да «ўтварэння» выбарнага органа ў Беларусі (відавочна, па думцы буржуазных нацыяналістаў, толькі не савецкага). На «з'ездзе» былі абвешчаны лозунгі, накіраваныя на схіленне на свой бок сялянства: аб «вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларускай народнай рэспубліцы ў яе этнаграфічных граніцах», аб «беларускай арміі» і «беларускім ўстаноўчым сойме», аб «братэрстве ўсіх славянскіх народаў». Разам з тым выстаўляліся і такія лозунгі, якія распальвалі нацыяналістычны настрой, варожасць да рускага народа, «да Масквы».

Пры гэтым (яшчэ да Кранштацкага мяцяжу 1921 года, калі такія лозунгі былі выстаўлены ўпершыню ў Расіі) «Беларускі з'езд Случчыны» выкарыстаў назвы савецкіх органаў — савет («рада»), але ў антысавецкіх, антыбальшавіцкіх мэтах — саветы «без маскоўскіх камуністаў»[58].

З 16 лістапада пачалі сваю дзейнасць «Рада Случчыны» з 17 членаў і яе прэзідыум з 5 чалавек. У складзе «рады» было 8 беларускіх эсэраў — У. Пракулевіч, В. Русак, Асвяцімскі і інш., да іх прымыкалі спачуваючыя ім, такія, як Ю. Лістапад. Другой групоўкай у «Радзе Случчыны» былі прыхільнікі Булак-Балаховіча і Алексюка — А. Паўлюкевіч, Мацэлі і інш. Урэшце, былі і прадстаўнікі «нейтральных груп» беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Сярод іх раздаваліся галасы аб тым, каб не паднімаць мяцяжу, але і яны далучыліся да большасці і актыўна ўдзельнічалі ў «слуцкім паўстанні». Большасць членаў «Слуцкай рады» было настроена насцярожана да Булак-Балаховіча, не жадаючы падпарадкоўвацца яго камандаванню, хоць «рада» вяла адначасова з ім барацьбу супраць Савецкай улады. Усё ж прадстаўнікі Балаховіча прыязджалі ў Слуцк для сувязі з «радаю»[59].

Першачарговай справай «рады Случчыны» з'яўлялася фарміраванне войска, дзеля чаго была створана «вайсковая тройка» з членаў «рады» Жаўрыда, Анцыповіча і Мацэлі, якія спешна пачалі збіраць узброеныя атрады. Іншыя члены «рады» займаліся арганізацыяй розных цывільных устаноў[60], якія тым ці іншым чынам дапамагалі ўзброенаму мяцяжу. Эсэраўскія агітатары распаўсюджвалі розныя правакацыйныя чуткі, запалохвалі, дэзарыентавалі насельніцтва.

«Рада» занялася і дыпламатычнай «дзейнасцю». Яна заявіла «энергічны пратэст... Савецкаму ўраду на чале з Кнорыным» супраць намераў савецкіх войск заняць Слуцкі павет пасля адыходу адтуль польскіх войск. «Рада» аб'явіла, што «перадасць сваю ўладу толькі ўраду, створанаму Усебеларускім Кангрэсам 1917 года». «Слуцкая

рада» заявіла нават пратэст і польскаму ўраду супраць перадачы Слуцкага павета ўладам БССР [61].

«Слуцкая рада» 21 лістапада выдала дэкларацыю, якая заклікала сялянства на барацьбу за «незалежную Беларусь у яе этнаграфічных граніцах» і за «інтарэсы сялянства». Аднак ні кіраўнік «Слуцкай рады», ні іх польскія апекуны не разлічвалі на адны толькі адозвы. «Слуцкая рада» фарміравала паскоранымі тэмпамі атрады з самых розных элементаў — кулакоў, дэзерціраў з Чырвонай Арміі, што сканцэнтраваліся ў Слуцку, шляхты, балахоўцаў, контррэвалюцыянераў, «зялёных», навярбованых валанцёраў, адсталых у палітычных адносінах сялян, якія былі ўведзены ў зман дэмагагічнымі і нацыяналістычнымі лозунгамі. Паводле нацыянальнага складу не ўсе мяцежнікі былі беларусамі, значны элемент сярод іх складалі рускія. Гэта паказвае той факт, што лісток мяцежнікаў, які заклікаў змагацца за «вольную Беларусь», друкаваўся на рускай мове [62]. Такім чынам, пры падтрымцы буржуазна-памешчыцкага ўрада Польшчы ў барацьбе супраць Савецкай улады самкнуліся беларускія нацыяналісты і рускія контррэвалюцыянеры. Афіцэрскія кадры для гэтых ваенных фарміраванняў падбіраліся пад кіраўніцтвам польскіх ваенных улад (паводле спісаў, складзеных загадзя [63]), галоўным чынам з афіцэраў-дзянікінцаў і балахоўцаў, хоць і мясцовага паходжання.

Польскі генеральны штаб падтрымліваў «паўстанцаў» матэрыяльна. За грашовай дапамогай у Польшчу ездзілі Жаўрыд і Цярэшчанка [64]. Член «рады» Ю. Лістапад, які «ведаў справаю кантролю і дастаўкаю ежы для паўстанцаў», ездзіў у Варшаву, дзе атрымаў 25 тысяч польскіх марак для падтрымкі мяцяжу і перадаў іх У. Пракулевічу, старшыні «рады»[65]. Польскае камандаванне на месцы таксама дапамагала мяцежнікам. Прадстаўнік «Слуцкай рады» А. Паўлюкевіч адзначыў на нарадзе нацыяналістаў у Празе ў верасні 1921 года, што «паўстанцы ўвесь час атрымоўвалі аружную дапамогу ад палякаў»[66]. Праў-

да, «рада Случчыны» лічыла, што дапамога гэтая недастатковая. Кіраўнікі мяцежнікаў былі не зусім задаволеныя тым, што польскія ўлады ў пэўнай меры лічыліся з папярэднім мірным дагаворам і не афішыравалі дапамогі мяцежнікам. У прынятай на пасяджэнні «Слуцкай рады» 30 студзеня 1921 года (пасяджэнне адбылося ўжо на тэрыторыі, якая адышла да Польшчы паводле ўмоў мірнага дагавора 1920 года) пастанове зазначалася, што за ўвесь час мяцяжу «войскам беларускім было атрымана ад Польшчы: 100 пудоў збожжа ад цывільнай улады і 300 карабінаў з патронамі і 3 кухні ад вайсковых часцей»[67].

Мяцежнікі на працягу трох дзён сфарміравалі з сваіх атрадаў «1-ю Слуцкую брыгаду стральцоў войск Беларускай народнай рэспублікі» ў складзе двух палкоў: 1-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага[68]. Фарміраванне гэтае рабілася паспешна, бо паводле ўмоў прэлімінарнага мірнага дагавора польскія войскі павінны былі хутка адысці за лінію дзяржаўнай граніцы.

Яшчэ 12 лістапада 1920 года на пленуме савецка-польскай ваенна-пагадненчай камісіі ў Мінску была зацверджана лінія, на якую павінны былі адысці польскія часці. Яна адпавядала ўмовам дагавора аб перамір'і. Аднак адыход польскіх войск за лінію граніцы зацягваўся. Гэта было звязана з затрымкай мірных перагавораў у Рызе. 13 лістапада там пачаліся савецка-польскія перагаворы аб канчатковым міры СССР і УССР з Польшчаю. Паводле пагаднення, падпісанага 14 лістапада, Польшча абавязвалася неадкладна адвесці свае войскі за дзяржаўную мяжу, прычым прадугледжвалася, што вывад іх пачнецца не пазней 19 лістапада апоўначы[69]. Але і гэтае пагадненне было парушана. У ваенна-пагадненчай камісіі ў Мінску палкоўнік Рыбак зацягваў перагаворы. Вывад польскіх войск з савецкай тэрыторыі пачаўся толькі з 22 лістапада пасля дзвюх нот, накіраваных старшынёю расійска-ўкраінскай дэлегацыі на мірных перагаворах у Рызе

старшыні польскай дэлегацыі. Зразумела, уся гэтая цяганіна была звязана з намерам польскага камандавання даць магчымасць уцячы ад разгрому Чырвонай Арміяй бандам Пятлюры на Украіне і Булак-Балаховіча ў Беларусі. Гэтая затрымка таксама дазваляла фарміраваць яшчэ адну «армію» для барацьбы з Савецкай уладай — на гэты раз у Слуцкім павеце.

Адыход польскіх часцей за лінію граніцы выконваўся марудна, не 20 кіламетраў за дзень, як гэта прадугледжвалася ўмовамі дагавора аб перамір'і, а па 10 кіламетраў у суткі або трохі больш. У раёне Слуцка гэты адвод войск адбываўся ў апошняй дэкадзе лістапада 1920 года. 24 лістапада польскія часці пакінулі Слуцк. Савецкія часці павольна прасоўваліся наперад у Слуцкім раёне, жадаючы пазбегнуць сутыкненняў з польскімі войскамі. У аператыўнай зводцы палявога штаба рэспублікі ад 22 лістапада гаварылася: «У Слуцкім раёне палякі пачалі адыход да дзяржаўнай граніцы. Нашы войскі ў руху для заняцця новай дэмаркацыйнай лініі»[70]. На наступны дзень паведамлялася: «У Слуцкім раёне працягваецца прасоўванне нашых часцей на новую дэмаркацыйную лінію»[71]. Такое ж паведамленне аб руху часцей Чырвонай Арміі было апублікавана ў зводцы ад 24 лістапада. У чарговых зводках палявога штаба Чырвонай Арміі пра Слуцкі раён ужо нічога не гаварылася. 27 лістапада было паведамлена, што войскі Чырвонай Арміі ў гэтым раёне працягваюць прасоўвацца на дэмаркацыйную лінію ў 15 кіламетрах ад граніцы. Урэшце, у зводцы ад 29 лістапада паведамлялася: «У Слуцкім раёне нашы часці выйшлі на новую дэмаркацыйную лінію Вызна — мястэчка Леніна, заняўшы горад Слуцк»[72]. Да канца лістапада савецкія войскі выйшлі на лінію ад мястэчка Леніна на рацэ Случ да мястэчка Тураў.

Значная частка Слуцкага павета была занята часцямі Чырвонай Арміі. З 25 лістапада на гэтай тэрыторыі павета была адноўлена Савецкая ўлада[73]. Тут працаваў Слуц-

кі павятовы рэўком. З усіх шасці паветаў БССР толькі ў Слуцкім рэўком захоўваўся да 1921 года (у астатніх да сярэдзіны снежня 1920 года былі ўжо выбраны павятовыя выканкомы Саветаў). Гэта тлумачылася складаным становішчам у павеце і неабходнасцю ліквідацыі збройнага мяцяжу супраць Савецкай улады.

Паміж дзяржаўнай граніцай і дэмаркацыйнай лініяй савецкіх войск утварылася 15-кіламетровая нейтральная паласа. Паводле ўмоў мірнага дагавора, яна не была занята часцямі Чырвонай Арміі. Для арганізацыі Савецкай улады ў нейтральнай зоне і для кіравання ёю загадам камандуючага 16-й арміяй зона была падзелена ў межах Слуцкага павета на тры часткі, для кожнай з якіх былі створаны рэўкомы, падначаленыя Слуцкаму павятоваму рэўкому — Пясочанскі, Семежаўскі і Хорастаўскі [74]. Да 1 снежня ў двух раёнах нейтральнай зоны, дзе разгорталіся баі з мяцежнікамі, былі сфарміраваны атрады міліцыі пры рэўкомах. Яны таксама прымалі ўдзел у барацьбе з мяцежнікамі. Пры Семежаўскім рэўкоме быў атрад з 150 пешых і 20 конных міліцыянераў, пры Хорастаўскім — 120 пешых і 15 конных [75].

Да канца лістапада 1920 года было скончана прасоўванне часцей Чырвонай Арміі на дэмаркацыйную лінію. Да гэтага часу «армія» генерала Булак-Балаховіча была часткова разбіта, часткова выгнана на тэрыторыю Польшчы. Аператыўнае размяшчэнне часцей 16-й арміі ў Слуцкім павеце перад пачаткам ліквідацыі эсэра-нацыяналістычнага мяцяжу было такім: 22-я брыгада 8-й дывізіі стаяла на лініі Пясочнае—Капыль—Ванелевічы—Лядна—Жываглодавічы—Вызна (цяпер Чырвоная Слабада) — каля 80 кіламетраў; 23-я брыгада гэтай жа дывізіі размяшчалася на лініі на поўдзень ад Вызны—Капацэвіч—Ясковіч (на рацэ Морач) — Залюцічы (на рацэ Случ) — мястэчка Ленін (на рацэ Случ) — каля 80 кіламетраў; 24-я брыгада 17-й дывізіі стаяла на лініі мястэчка Ленін — мястэчка Тураў, г. зн. ужо далёка за межамі

Слуцкага павета і ў ліквідацыі мяцяжу ўдзелу не прымала. Такім чынам, з мяцежнікамі вялі баі толькі дзве брыгады 8-й дывізіі Чырвонай Арміі. У нацыяналістычнай жа літаратуры існуе версія пра тры дывізіі Чырвонай Арміі, пра «адборныя камуністычныя» часці, кінутыя супраць мяцежнікаў, пра спецыяльныя кітайскія, кіргізскія, татарскія атрады, якія нібыта прымалі ўдзел у баях, і г. д. Гэтая версія падтрымліваецца кіраўнікамі беларускіх буржуазных нацыяналістаў для ўзвелічэння слуцкага мяцяжу, для надання яму «гераічнага арэолу», для стварэння «сімвала барацьбы беларускага народа» за свабоду «ад Масквы».

Не паспеўшы канчаткова сфарміраваць абодва палкі, Слуцкая брыгада разам з «радаю Случчыны» ўслед за польскімі войскамі адышла на захад, у мястэчка Семежава, якое знаходзілася ў нейтральнай зоне (прыкладна ў 8 кіламетрах ад граніцы). Тут паспешна заканчвалася фарміраванне абодвух палкоў. Да канца лістапада 1-шы Слуцкі полк быў ужо сфарміраваны, а фарміраванне 2-га Грозаўскага палка ўжо амаль закончылася.

Колькасны састаў Слуцкай брыгады складаў 4 000 чалавек [76]. Існуюць розныя ацэнкі колькасці мяцежнікаў. Зразумела, нацыяналістычныя крыніцы гатовыя з вялікай ахвотай перабольшыць гэтую лічбу, каб паказаць масавасць руху мяцежнікаў. Тут ідзе сапраўднае спаборніцтва лічбаў: 5, 7, 10, 12 тысяч чалавек! Аднак нават гродзенская газета «Беларускае Слова», якая спачувала мяцежнікам, ацэньвала іх сілы ў 4 тысячы чалавек [77]. Гэтая лічба і была прынята намі.

Камандзірам брыгады «Слуцкая рада» прызначыла аднаго з яе членаў — капітана Анцыповіча. Камандзірам 1-га Слуцкага палка быў прызначаны капітан генеральнага штаба рускай арміі П. Чайка (ураджэнец Случчыны), які з 31 ліпеня 1920 года да акупацыі Слуцка польскімі войскамі ў кастрычніку таго ж года працаваў на пасадзе памочніка ваеннага кіраўніка Слуцкага павятовага ваен-

камата [78]. Камандзірам 2-га Грозаўскага палка стаў капітан Семянюк, які дагэтуль быў (з лютага 1920 года) камандзірам так званага «Першага Беларускага партызанскага атрада», які складаўся з сотні чалавек. Атрад падначальваўся «Беларускай вайсковай камісіі» і фарміраваўся на тэрыторыі акупіраванай палякамі Беларусі пад наглядам чатырох польскіх афіцэраў-інструктараў. Дарэчы, у «беларускім» атрадзе каманды, абучэнне і справаводства вяліся на рускай мове, адзначалася ў дакладзе камісіі, складзеным А. Якубецкім 22 сакавіка 1920 года.

Брыгада была пяхотнай, палкі яе падзяляліся на батальёны і роты. У яе складзе знаходзіўся конны атрад, а таксама палкавыя абозы і зброевая майстэрня. Быў сфарміраваны і асобны ад брыгады атрад з дзвюх рот. У палках былі створаны свае, палкавыя штабы. Быў арганізаваны штаб брыгады і аддзелы разведкі і контрразведкі пры ім. Урач А. Паўлюкевіч арганізаваў палявы шпіталь, а Я. Біруковіч — вайсковы суд.

Такім чынам, у адрозненне ад іншых эсэра-кулацкіх мяцяжоў у гэтым выпадку з самага пачатку быў узяты курс на стварэнне рэгулярных часцей. Адчувалася, што пад прыкрыццём сцяга «Беларускай народнай рэспублікі» дзейнічае спрактыкаваная рука.

Кіруючыя цэнтры беларускіх буржуазных нацыяналістаў пільна сачылі за развіццём падзей. Яны аспрэчвалі адзін у аднаго права кантролю за дзеяннямі «Слуцкай рады» і брыгады «паўстанцаў». Паколькі значная частка афіцэраў Слуцкай брыгады, у асноўным белагвардзейцаў, былых царскіх або дзянікінскіх афіцэраў, была настроена на карысць Булак-Балаховіча, то беларускі «ўрад» у Варшаве вырашыў узмацніць свой уплыў сярод кіраўніцтва мяцежнікаў. Ён прыслаў 12 афіцэраў з «Беларускай вайсковай камісіі», якая знаходзілася ў Лодзі, але з іх у брыгадзе засталося толькі чацвёра, у тым ліку маёр А. Якубецкі і капітан Борык, начальнік штаба бры-

гады, якога прыслалі з Лодзі яшчэ ў сярэдзіне лістапада. Астатнія афіцэры дэзерціравалі. Радавыя мяцежнікі вельмі неахвотна сустрэлі гэтых прыезджых. Адзін з салдат брыгады пасля ўспамінаў: «Замест хлеба і вопраткі скора дайшла вестка, што добрая багіня знайшлася. Каб пацешыць галодных салдат, яна прыслала да іх сваіх сынкоў. Сынкі мелі досыць зьвёздак і нават раменьчыкі на плячах. Толькі нямногія з іх даехалі да 1-е Слуцкае брыгады — больш уцякло з дарогі»[79]. Салдаты, у асноўным з сялян, прама называлі многіх афіцэраў белагвардзейцамі. Гэтыя афіцэры займаліся рукапрыкладствам, назначалі цялесныя кары, расстрэльвалі палонных камуністаў, не даводзячы іх да штаба. Узрастала дыстанцыя паміж афіцэрскім саставам і радавымі мяцежнікамі, многія з якіх былі падмануты дэмагагічнымі сацыяльнымі і нацыянальнымі лозунгамі і паддаліся на заклік камісара «Найвышэйшай рады БНР» па Слуцкаму павету аб папаўненні сялянамі Слуцкай брыгады і аб «усеагульнай мабілізацыі ў беларускае войска». Супярэчнасці існавалі і ў самой «радзе» паміж беларускімі эсэрамі і прыхільнікамі Булак-Балаховіча. Аб'ядноўвала іх адно — нянавісць да Савецкай улады.

Як ужо нагадвалася, у пачатку мяцяжу ў Слуцкай брыгадзе налічвалася ўсяго 300 карабінаў, якія былі перададзены польскімі ўладамі, і 500 вінтовак, якія прынеслі самі мяцежнікі. Потым з Лунінца брыгадзе былі перададзены яшчэ вінтоўкі і кулямёты; частка зброі была атрымана ад дэзерціраў або ўзята ў якасці трафеяў. Усяго ў снежні брыгада мела ўжо 2 000 вінтовак і 10 кулямётаў[80]. Артылерыі ў мяцежнікаў не было. Забеспячэнне спачатку было наладжана, але потым па меры скарачэння тэрыторыі пад іх кантролем пачало пагаршацца.

У канцы лістапада 1920 года 1-шы Слуцкі полк займаў ужо ўчастак ад Семежава да Вызна, г. зн. працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. З 27-га лістапада падраздзяленні гэтага палка рабілі налёты на размяшчэнне

часцей 8-й дывізіі Чырвонай Арміі, на яе палявыя караулы і заставы на дэмаркацыйнай лініі. У наступныя дні паўтараліся безупынныя напады з нейтральнай зоны і на ўчастку размяшчэння 2-га Грозаўскага палка на палявыя каравулы, асабліва моцныя на ўчастку Капыль—Цімкавічы—Вызна [81], ужо працягласцю 60 кіламетраў.

Спачатку камандаванне Чырвонай Арміі не ведала, што яно сутыкнулася з узброенымі атрадамі мяцежнікаў. Яно прыняло іх за атрады Балаховіча. Так, у аператыўнай зводцы палявога штаба Чырвонай Арміі ад 2 снежня 1920 года гаварылася: «У Слуцкім раёне ў 20 вярстах на паўночны захад (раён паміж Капылём і Грозавым — **А. Г.**) і ў 25 вярстах на паўднёвы захад ад Слуцка (раён Вызна.— **А. Г.**) адбываюцца сутычкі з дробнымі вандроўнымі атрадамі балахоўцаў»[82]. На самай справе тут узброеных балахоўцаў не было, а дзейнічалі атрады Слуцкай брыгады. Дарэчы, у Слуцкім павеце дзейнічалі і іншыя антысавецкія сілы. Так, у раёне Мелкавічы—Старобін атрад так званай «Беларускай сялянскай партыі Зялёнага Дуба» з 60 чалавек пад камандаваннем сотніка Дзергача (В. Адамовіча) зрабіў налёт на Старобін і ўчыніў расправу над партыйнымі і савецкімі работнікамі.

Камандаванне 16-й арміі вырашыла ачысціць нейтральную зону ад антысавецкіх элементаў. Пасля папярэдняй згоды, атрыманай ад польскіх улад, на заход савецкіх войск у нейтральную зону на тры дні з раніцы 4 снежня ў яе межы былі ўведзены часці 8-й і 17-й дывізій (атрады апошняй дзейнічалі на поўдзень і непасрэднага ўдзелу ў баях са слуцкімі мяцежнікамі не прымалі). Трохдзённая аперацыя дала нязначныя вынікі — было затрымана на ўсім участку каля 50 дэзерціраў і 15 перабежчыкаў [83]. Камандаванне 16-й арміі адзначала тыя цяжкасці, з якімі прыходзілася сутыкацца пры ліквідацыі мяцяжу. Антысавецкія элементы пранікалі праз дзяржаўную граніцу, працягвалі весці прапаганду сярод мясцовых жыхароў, арганізоўвалі бандыцкія шайкі, рабавалі

насельніцтва і рабілі налёты на часці Чырвонай Арміі, якія займалі дэмаркацыйную лінію. Слуцкія мяцежнікі папранейшаму заставаліся ў нейтральнай зоне. Яны мелі магчымасць заўсёды адысці за граніцу на тэрыторыю Польшчы, дзе маглі разлічваць у горшым выпадку на абыякавыя да сябе адносіны, [redacted] ў лепшым — на прамое садзейнічанне. Для больш планамернай і рашучай барацьбы з мяцежнікамі і з бандытызмам наогул Рэвваенсавет Заходняга фронта ўсклаў кіраўніцтва гэтай аперацыяй на Рэвваенсавет 16-й арміі з падначаленнем яму ўсіх атрадаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных атрадаў, якія вялі барацьбу з бандытызмам у раёне размяшчэння арміі [84].

У выніку праведзенай аперацыі ў раёне Семежава частка атрадаў мяцежнікаў была разбіта і 7 снежня перайшла польскую граніцу. Польскія ваенныя ўлады раззброілі 30 афіцэраў і 400 салдат. 9 снежня штаб Слуцкай брыгады прызнаў, што пасля баёў у раёнах Капыля, Семежава і Вызна атрады мяцежнікаў адступілі да граніцы, і дзве роты адышлі на польскую тэрыторыю, дзе былі раззброены палякамі. У час адступлення ўсіх, хто быў западозраны ў тым, што ён бальшавік або спачуваючы, расстрэльвалі на месцы без суда, [redacted] астатніх палонных перадалі польскім уладам. Брыгада адышла да самай граніцы (на 8 кіламетраў на захад ад Семежава).

У гэты ж час у кіраўніцтве мяцежнікаў рознагалоссі прывялі да змены камандавання брыгадай. Камандзір 1-га Слуцкага палка капітан П. Чайка быў арыштаваны па абвінавачанню ў здрадзе. «Рада Случчыны» сабралася на надзвычайнае пасяджэнне і пастанавіла арыштаваць камандзіра брыгады капітана Анцыповіча і начальніка контрразведкі паручніка Мірановіча. Камандзірам брыгады быў прызначаны штабс-капітан А. Сокал-Кутылоўскі, камандзірам 1-га палка — падпалкоўнік Гаўрыловіч, а начальнікам контрразведкі паручнік Янушэнка. Ваенна-палявы суд вынес вымову арыштаваным афіцэрам. Каман-

дзіру брыгады «Слуцкая рада» перадала часова дыктатарскія паўнамоцтвы.

Аднак не гэтым трэба тлумачыць змены ў кіраўніцтве. Група прыхільнікаў Балаховіча вяла барацьбу супраць эсэраўскага кіраўніцтва «рады». Група «балахоўствуючых» абапіралася на значную частку афіцэраў мяцежных атрадаў. Самому генералу Булак-Балаховічу не цярпелася зноў з'явіцца на чале войск для барацьбы з Савецкай уладай. Ягоныя прыхільнікі абвінавачвалі ў паражэннях прэзідыум «рады Случчыны» і тлумачылі іх тым, што «рада» не згадзілася аб'яднаць свае войска з «арміяй» Булак-Балаховіча. Капітан Самусевіч пагражаў «радзе», што ён мае паўнамоцтвы ад Балаховіча расстраляць непакорных яе членаў, якія, на думку генерала, настроены па-леваэсэраўску [85]. Эсэраўскія кіраўнікі «рады» даручылі дыктатарскую ўладу камандзіру брыгады і пагражалі прыхільнікам Балаховіча, што яны «перададуць іх бальшавікам». Адначасова з гэтым яны цясней звязаліся з беларускім буржуазна-нацыяналістычным «урадам» у Варшаве (так званай «Дырэкторыяй») і прызналі назначанага «Найвышэйшай беларускай радай» камандуючага «войскамі Беларускай народнай рэспублікі» маёра А. Якубецкага [86], які цесна супрацоўнічаў з польскімі ўладамі.

Разам з дапамогаю, якую сакрэтна аказвалі мяцежнікам польскія ўлады, беларускія буржуазна-нацыяналістычныя дзеячы заклікалі збіраць матэрыяльную дапамогу «паўстанцам», ахвяраваць грошы і рэчы. Дзеля гэтага яны разгарнулі шумную прапагандысцкую кампанію ў сваіх газетах, усяляк усхваляючы баявыя дзеянні мяцежнікаў і называючы іх «барацьбітамі за незалежнасць Беларусі».

Аднак дапамога была мізэрнай. Так, з 1 да 24 снежня 1920 года «Беларускі нацыянальны камітэт» у Гродне сабраў усяго 3 194 польскія маркі, няшмат вопраткі і медыкаментаў [87]. Але і гэтыя крошкі, натуральна, да радавых мяцежнікаў не даходзілі.

Беларускія буржуазныя нацыяналісты патрабавалі зброю для барацьбы з Савецкай уладай і звярталіся да заходніх дзяржаў: «Мы хацелі б, аднак, каб свет крыху аб нас падумаў. Чаму аб Літве, Латвіі, Польшчы клапоцяцца заходнія дзяржавы, а Беларусь пакідаюць сваёй долі... патрабуем аднаго — аружжа». Але патрабаванне і лямант беларускіх нацыяналістаў не былі пачуты. Вельмі малалікімі былі іх сілы, каб хто-небудзь з заходніх дзяржаў асмеліўся рызыкаваць паставіць на гэтую карту ў палітычнай гульні. Адзіная капіталістычная краіна, якая выкарыстала слуцкі мяцеж у сваіх мэтах, была Польшча. Кіруючыя колы яе мелі непасрэднае дачыненне да арганізацыі «слуцкага паўстання».

Штаб Слуцкай брыгады пасля адступлення знаходзіўся ў вёсцы Грыцэвічы ў 2 кіламетрах ад ракі Лані ў нейтральнай зоне, але ўжо на тэрыторыі, якая адышла да Польшчы паводле мірнага дагавора. Пасля вяртання з нейтральнай зоны на дэмаркацыйную лінію савецкіх часцей мяцежнікі зноў пачалі нападаць на перадавыя атрады Чырвонай Арміі. Звычайна гэта былі начныя налёты. Так, у ноч на 10 снежня быў зроблены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-е — на вёску Старынь. Потым мяцежнікі зрабілі спробу адцясніць перадавыя часці Чырвонай Арміі з займаемых пазіцый. Было распачата наступленне на мястэчкі Семежава і Вызна.

Раніцай 19 снежня часці Чырвонай Арміі пачалі наступленне для ліквідацыі ўзброеных сіл мяцежнікаў. У гэты дзень было вызвалена мястэчка Вызна. Мяцежнікі пачалі адыходзіць на захад да вёскі Смолічы (у 10 кіламетрах на захад ад Вызна). 20 снежня мяцежнікі былі выцеснены да Морачы. У той жа дзень іх выбілі з Семежава. Па ўзгадненню дэлегацый на мірных перагаворах у Рызе, войскам Чырвонай Арміі дазвалялася праследаваць мяцежнікаў і ў нейтральнай зоне. Штаб брыгады мяцежнікаў перабраўся ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лані, за якой стаялі польскія войскі. Сюды збіра-

ліся разбітыя палкі мяцежнікаў. «Рада Случчыны» прыняла рашэнне перайсці раку Лань і ратавацца на польскай тэрыторыі. 28 снежня Слуцкая брыгада перайшла раку Лань у раёне размяшчэння 41-га польскага палка і была раззброена і інтэрніравана ў раёне Сіняўкі. «Слуцкая рада» перабралася ў Баранавічы, дзе знаходзілася яшчэ месяц. Так закончыўся антысавецкі мяцеж у Слуцкім павеце.

Са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чалавек) на чале са сваімі афіцэрамі застаўся ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару [88]. У асноўным гэта былі прыхільнікі Балаховіча. Гэты батальён падзяліўся на дзесятак груп і папоўніў колькасць бандыцкіх атрадаў у Слуцкім павеце, учыняючы налёты не столькі на часці Чырвонай Арміі, колькі на мірнае насельніцтва. Далейшая барацьба з гэтымі астаткамі слуцкіх мяцежнікаў вялася ў рамках агульнай барацьбы супраць палітычнага бандытызму на тэрыторыі Беларускай ССР. Інтэрніраваных мяцежнікаў польскія ўлады перавялі ў лагер у Беластоку, а потым у лагер у Дарагуску. Яны былі вызвалены з лагера толькі ў маі 1921 года [89], ужо пасля падпісання канчатковага савецка-польскага мірнага дагавора (у сакавіку 1921 года).

«Рада Случчыны» перайшла на становішча палітычных эмігрантаў. Пасля падаўлення мяцяжу яе членам не хацелася адмаўляцца ад палітычнай ролі, якую яны ігралі. Але з-за таго, што сродкаў на працяг «дзейнасці» ў «рады» не было, то яе членам прыйшлося шукаць апекуноў сярод больш моцных эмігранцкіх груп. На пасяджэнні 20 студзеня 1921 года адбыўся раскол «рады»: частка яе членаў прызнала сваім правадыром Булак-Балаховіча і паехала да яго ў Варшаву, называючы па-ранейшаму сябе «радай Случчыны», іншыя члены перабраліся ў Вільню або засталіся ў Баранавічах. Мацэлі і Паўлюкевіч па-ранейшаму падтрымлівалі Булак-Балаховіча, У. Пракулевіч пераехаў у Каўнас, да лідэраў партыі беларускіх эсэраў,

дзе ў 1923 годзе ўвайшоў у склад «урада БНР» пад кіраўніцтвам А. Цвікевіча як «дзяржаўны пісар». Член «рады» Ю. Лістапад, які прымыкаў да беларускіх эсэраў, перайшоў у арганізацыю П. Алексюка, цесна звязанага з дэфензівай беларускага дзеяча, які заклікаў да далучэння Беларусі да Польшчы. У 1922 годзе Ю. Лістапад вярнуўся ў Слуцк, дзе на настаўніцкіх курсах 1924—1925 гадоў арганізаваў падпольны нацыяналістычны гурток, за што ён быў асуджаны ў 1926 годзе на 5 год зняволення [90].

Сярод слуцкіх «паўстанцаў» было нямала людзей, якія ўжо пасля правалу мяцяжу зразумелі, што ён быў інспіраваны польскім генеральным штабам супраць Савецкай улады, як пра гэта пісаў пазней адзін з удзельнікаў паўстання Іосіф Лагіновіч [91] (потым у 1926—1936 гадах палітычны сакратар ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі і член Палітбюро ЦК Кампартыі Польшчы)[92]. Такія людзі ў Польшчы працягвалі палітычную дзейнасць у партыі беларускіх эсэраў. Многія з іх выйшлі з гэтай партыі і з іншымі беларускімі рэвалюцыянерамі ў сярэдзіне 1922 года стварылі Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю, якая 30 снежня 1923 года аб'ядналася з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі [93]. Так што і ў асяроддзі былых слуцкіх «паўстанцаў» адбывалася дыферэнцыяцыя паводле класавых і палітычных матываў.

Слуцкі мяцеж быў падняты на шчыт беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі адразу ж пасля яго паражэння. Ужо на так званай «Беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе» ў Празе 29 верасня 1921 года была прынята рэзалюцыя «аб слуцкім паўстанні». У ёй абвяшчаўся тэзіс аб барацьбе слуцкіх мяцежнікаў як «супраць Масквы», так і «супраць Варшавы». Тэзіс гэты не меў нічога агульнага з гістарычнай праўдаю. А. Паўлюкевіч, які прысутнічаў на нарадзе як прадстаўнік «Слуцкай рады», пратэставаў супраць гэтага лозунга і, матывуючы сваю прапанову тым, што «паўстанцы ўвесь час атрымоўвалі

аружную дапамогу ад палякаў», патрабаваў выкінуць з рэзалюцыі словы аб тым, што паўстанцы дзейнічалі пад лозунгамі: «Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў»[94]. Але рэзалюцыя была прынята 30 галасамі пры двух, якія ўстрымаліся. На гэтай жа нарадзе А. Паўлюкевіч заявіў: «Акцыя Балаховіча і слуцкае паўстанне былі цесна звязаны з Польшчай, бо іначай мы сядзелі б у турме». Далей ён працягваў: «Найвышэйшая Рада сказала: ні з кім не майце дачынення, вам усё будзе. Усё было абяцана». Пасля ўтварэння воінскіх атрадаў прыбылі прадстаўнікі Беларускай вайсковай камісіі, створанай пры штабе войска польскага. «Вайсковая камісія, не меўшая ўплыву ў польскіх кругах, нічога не атрымала, нічога нам не давала... Я прапанаваў, каб адысці і злучыцца з Балаховічам. Нам не дазволілі і прыказалі адысці на польскую тэрыторыю, і нас адправілі ў лагер». Гаворачы пра адсутнасць сувязей слуцкіх мяцежнікаў з «урадам БНР» В. Ластоўскага (у Каўнасе), А. Паўлюкевіч адзначыў: «Мы не зносіліся з урадам Ластоўскага не таму, што проці яго што мелі, а што не маглі зносіцца. ...З урадам Ластоўскага не маглі зносіцца, бо мы рабілі справу пад польскай арыентацыяй».

Нягледзячы на такую выразную заяву аднаго з актыўных дзеячаў слуцкіх мяцежнікаў, у колах беларускіх буржуазных нацыяналістаў пачала ўзрастаць легенда пра слуцкі мяцеж 1920 года як «нацыянальнае паўстанне за незалежнасць Беларусі». Гэтая легенда эксплуатуецца і цяпер у антысавецкіх мэтах у ідэалагічнай барацьбе супраць сацыялізму, супраць Савецкай Беларусі і СССР.

Слуцкі мяцеж пацярпеў поўны правал. Аднак польскія кіруючыя колы ў 1920—1921 гадах выкарысталі яго для таго, каб спрабаваць дабіцца на сваю карысць некаторых уступак у тэрытарыяльным пытанні пры заключэнні канчатковага мірнага дагавора з Савецкай Расіяй. Такім чынам, і ў гэтым выпадку, як і ў іншых, беларускія буржуазныя нацыяналісты на справе служылі не інтарэсам свай-

го народа, пра які яны шмат гаварылі, [redacted] інтарэсам замежнай дзяржавы.

І гэтая авантура беларускіх нацыяналістаў, падтрыманых польскім камандаваннем, не прынесла жаданага поспеху. Як паказалі падзеі ў Слуцкім павеце, беларускія сяляне ў масе сваёй не падтрымалі ні беларускіх эсэраў, ні іншых нацыяналістаў. Эсэра-нацыяналістычны мяцеж быў падаўлены.

18 сакавіка 1921 года ў Рызе быў падпісаны савецка-польскі мірны дагавор, паводле ўмоў якога дзяржаўная граніца паміж Польшчай і Савецкай Беларуссю заставалася амаль без змяненняў. Да Польшчы дадаткова адышоў раён паміж рэкамі Ланню і Случчу і некаторыя ўчасткі на поўнач ад Мінска [95]. Беларускі народ пачаў мірнае будаўніцтва.

## БІБЛІЯГРАФІЯ


[1] Vakar N. P. Belorussia. The making of a nation. Cambridge, Massachusetts, 1956, p. 249—250.
[2] Ibid., p. 249.
[3] Цыт. паводле кн.: У імя праўды. Зборнік артыкулаў. Мінск, 1959, с. 16.
[4] Сокал-Кутылоўскі А. Легенда і рэчаіснасць.— У кн.: У імя праўды. Зборнік артыкулаў. Мінск, 1959, с. 18—19.
[5] История дипломатии. М.— Л., 1945, т. 3, с. 76; Иностранная военная интервенция и гражданская война в СССР 1918—20.— Советская историческая энциклопедия. М., 1965, т. 6, с. 71.
[6] Vakar N. P. Belorussia. The making of a nation. Cambridge, Massachusetts, 1956, p. 249.
[7] Ibid., p. 115, 116.
[8] Ibid., p. 115.
[9] Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, с. 42—43, 86—87.
[10] Тамсама, с. 42.
[11] Петров В. И. Советско-польская война 1920.— Советская историческая энциклопедия. М., 1971, т. 13, с. 162; Кравченко И. М. Советско-польская война 1920.— Большая Советская Энциклопедия. 3-е изд. М., 1976, т. 24, кн. 1, с. 39.
[12] Голубев А. В. Варшавское сражение 1920.— Большая Советская Энциклопедия. 3-е изд., М., 1971, т. 4, с. 318.
[13] Ленін У. І. Прамова на нарадзе старшынь павятовых, валасных і сельскіх выканаўчых камітэтаў Маскоўскай губерні 15 кастрычніка 1920 г.— Творы. Мінск, 1951, т. 31, с. 292; Ленин В. И. Речь на совещании председателей уездных, волостных и сельских исполнительных комитетов Московской губернии 15 октября 1920.— Полн. собр. соч., т. 41, с. 345.
[14] Какурин Н. Е. и Меликов В. А. Война с белополяками 1920 г. М., 1925, с. 374.

15 Путна В. К. К Висле и обратно. М., 1927, с. 224.
16 Документы внешней политики СССР. М., 1959, т. 3, с. 253.
17 Тамсама, с. 254.
18 Ленин В. И. Заключительное слово на совещании председателей уездных, волостных и сельских исполнительных комитетов Московской губернии 15 октября 1920 г.— Полн. собр. соч., т. 41, с. 363.
19 Документы и материалы по истории советско-польских отношений. М., 1965, т. 3, с. 527.
20 Историко-стратегический очерк 16-й армии. Могилев, 1921, с. 148—149.
21 Документы и материалы по истории советско-польских отношений. М., 1965, т. 3, с. 426.
22 Булак-Балаховіч.— Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (далей БелСЭ), т. 2, с. 461.
23 Корнатовский Н. А. Борьба за красный Петроград (1919). Л., 1929, с. 38.
24 Тамсама, с. 38—39.
25 Тамсама, с. 121, 123, 126.
26 Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, дадаткі, с. 68.
27 Historia Polski. Makieta. Warszawa, 1966, t. 4, cz. 1, s. 308—309.
28 Борис Савинков перед военной коллегией Верховного суда СССР. Полный отчет по стенограмме суда. М., 1924, с. 103.
29 Какурин Н. Е., Меликов В. А. Война с белополяками 1920 г. М., 1925, с. 385—387.
30 Тамсама, с. 385.
31 Беларускае Слова, Гродна, 1920, № 46; 26 лістапада.
32 Simanskij P. Kampanja Bialoruska rosyjskiej armji ludowo-ochotniczej gen. Bulak-Balachowicza w r. 1920.— Bellona, Warszawa, 1931, t. 37, cz. 2, s. 231—232.
33 Историко-стратегический очерк 16-й армии. Могилев, 1921, с. 151.
34 Simanskij P. Kampanja bialoruska rosyjskiej armji.., s. 229.
35 Борис Савинков перед военной коллегией Верховного суда СССР. Полный отчет по стенограмме суда. М., 1924, с. 104—105.
36 Тамсама, с. 105.
37 Савецкая Беларусь, 1920, № 58, 12 лістапада; № 63, 18 лістапада.
38 Историко-стратегический очерк XVI-й армии, с. 151.
39 Борис Савинков перед военной коллегией Верховного суда СССР. Полный отчет по стенограмме суда. М., 1924, с. 112.
40 Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, с. 41.
41 Філіял Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці ў гор. Мазыры, ф. 307, воп. 1, спр. 5, л. 89; Мазырскі краязнаўчы музей, інв. 3266.
42 Simanskij P. Kampanja bialoruska rosyjskiej armji.., s. 225.

43 Историко-стратегический очерк XVI-й армии.., с. 160.
44 Ленин В. И. Речь на Всероссийском съезде транспортных рабочих 27 марта 1921 г.— Полн. собр. соч., т. 43, с. 135.
45 Тамсама, с. 136.
46 Тамсама.
47 Ленин В. И. Речь на собрании партийного актива г. Москвы, 24 февраля 1921 г.— Полн. собр. соч., т. 42, с. 348—349.
48 Савецкая Беларусь, 1920, № 73, 30 лістапада.
49 Наша Думка, 1921, № 9, 4 сакавіка; № 10, 11 сакавіка.
50 Савецкая Беларусь, 1926, № 60, 16 сакавіка.
51 Наша Думка, 1921, № 10, 11 сакавіка.
52 Савецкая Беларусь, 1920, № 73, 30 лістапада.
53 Vakar N. P. Belorussia. The making of a nation. Cambridge, Massachusetts, 1956, p. 249.
54 Савецкая Беларусь, 1920, № 73, 30 лістапада.
55 Наша Думка, 1921, № 10, 11 сакавіка.
56 Документы внешней политики СССР, М., 1959, т. 3, с. 254.
57 Беларускае Слова, 1920, № 51, 2 снежня.
58 Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, с. 42.
59 Наша Думка, 1921, № 10, 11 сакавіка; № 11, 18 сакавіка.
60 Савецкая Беларусь, 1926, № 60, 16 сакавіка.
61 Круталевич В. От войны к миру.— Неман, 1968, № 4, с. 122.
62 Vakar N. P. Belorussia. The making of a nation. Cambridge, Massachusetts, 1956, p. 115.
63 Сокал-Кутылоўскі А. Легенды і рэчаіснасць.— У кн.: У імя праўды. Мінск, 1959, с. 19.
64 Савецкая Беларусь, 1926, № 60, 16 сакавіка.
65 Савецкая Беларусь, 1926, № 51, 4 сакавіка; № 57, 11 сакавіка.
66 Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, дадаткі, с. 87.
67 Тамсама, с. 43.
68 Наша Думка, 1921, № 11, 18 сакавіка; Сокал-Кутылоўскі А. Легенда і рэчаіснасць.— У кн.: У імя праўды. Мінск, 1959, с. 19.
69 Документы внешней политики СССР. М., 1959, т. 3, с. 328.
70 Известия ВЦИК, 1920, № 263, 23 ноября.
71 Известия ВЦИК, 1920, № 264, 24 ноября.
72 Тамсама, № 269, 30 ноября.
73 Савецкая Беларусь, 1920, № 83, 11 снежня.
74 Революционные комитеты БССР. Июль-декабрь 1920 г., Минск, 1957, с. 136.
75 Историко-стратегический очерк XVI-й армии. Могилев, 1921, с. 162.
76 Сокал-Кутылоўскі А. Легенда і рэчаіснасць, с. 20.
77 Беларускае Слова, 1920, № 47, 27 лістапада.
78 ЦДАКР БССР, ф. 8, воп. 1, спр. 19, л. 33.

79 Беларускія ведамасці, 1921, № 9, 7 лістапада.
80 Наша Думка, 1921, № 11, 18 сакавіка.
81 Историко-стратегический очерк XVI-й армии. Могилев, 1921, с. 162.
82 Известия ВЦИК, 1920, № 272, 3 декабря.
83 Историко-стратегический очерк XVI-й армии, с. 163.
84 Тамсама, с. 163—164.
85 Наша Думка, 1921, № 9, 4 сакавіка.
86 Беларускае Слова, 1920, № 66, 20 снежня.
87 Тамсама, № 69, 25 снежня.
88 Историко-стратегический очерк XVI-й армии. Могилев, 1921, с. 163.
89 Сокал-Кутылоўскі А. Легенда і рэчаіснасць.— У кн.: У імя праўды, Мінск, 1959, с. 21.
90 Савецкая Беларусь, 1925, № 280, 10 снежня; 1926, № 61, 18 сакавіка.
91 Bergman A. Przyczynki do historii Bialoruskiej Organizacji Rewolucyjnej — Przeglad Historyczny. Warszawa, 1977, t. 68, z. !, s. 163.
92 Арэхва М. С. Корчык.— Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 6, с. 79.
93 Грицкевич А. П. Крах партии белорусских эсеров в 1920—1921 гг.— В кн.: Непролетарские партии и организации национальных районов России в Октябрьской революции и гражданской войне. М., 1980, с. 87.
94 Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931, дадаткі, с. 86—87.
95 Документы внешней политики СССР. М., 1959, т. 3, с. 619—620.

Printed in USSR

**Анатолий Петрович ГРИЦКЕВИЧ**

# ВОКРУГ «СЛУЦКОГО ВОССТАНИЯ»

На белорусском языке

**Минск, 1987**

**Рэдактар В. Г. МАЦКЕВІЧ**
**Мастак У. М. БАТУРА**
**Тэхнічны рэдактар С. І. СТАРАВЕРАВА**
**Карэктар І. К. КАЗЛОВА**

Здадзена ў набор 27.01.87. Падпісана да друку 07.04.87. Фармат $70 \times 108^{1}/_{32}$ Папера для глыбокага друку. Гарнітура часопісная рубленая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,80. Улік.-выд. арк. 2,85. Фіз. друк. арк. 2,0. Зак. 59. Цана 20 кап.

Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы», Мінск, Ленінскі праспект, 44.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.